# Золата і тры срэбры

**У Эдмантане завяршыўся чэмпіянат сьвету па лёгкай атлетыцы. Беларусы ўзялі золата і тры срэбры й апынуліся на 11-м месцы ў камандным заліку.**

Усе нашыя спартоўцы выступілі ў сваю сілу, неспадзяваным сталася хіба другое месца Валянціны Цыбульскай у спартовай хадзе на 20 км.

Параўнаць нашыя вынікі з дасягненьнямі іншых краінаў Эўропы і былога СССР дапаможа табліца, складзеная паводле алімпійскае сыстэмы налічэньня ачкоў: першае месца – 9, другое – 7, ... восьмае –1.

| краіна | сілавыя віды | скокі | шматбор'е | бег/хада | разам |
|---|---|---|---|---|---|
| Расея | 38 | 47 | 19 | 83 | 187 |
| Польшча | 14 | 7 | - | 31 | 52 |
| Румынія | 6 | 5 | - | 36 | 47 |
| Беларусь | 23 | - | 7 | 9 | 39 |
| Украіна | 13 | 14 | - | 9 | 36 |
| Чэхія | 16 | 1 | 12 | 2 | 31 |
| Літва | 8 | 4 | 3 | 5 | 20 |
| Баўгарыя | - | 12 | - | 5 | 17 |
| Вугоршчына | 3 | 6 | 5 | - | 14 |
| Эстонія | - | - | 7 | - | 7 |
| Казахстан | - | - | - | 6 | 6 |
| Югаславія | 4 | - | - | - | 4 |
| Харватыя | 1 | 3 | - | - | 4 |
| Славенія | - | - | - | 2 | 2 |

Як бачым, мы апярэдзілі ня толькі Ўкраіну, але й Чэхію. Чацьвертае месца ў такім вялікім рэгіёне можна лічыць посьпехам. Асабліва, калі параўнаць з дасягненьнямі іншых краінаў былога СССР. З усіх васьмех азіяцкіх Рэспублік, напрыклад, зафіксаваны толькі адзін выхад у васьмёрку (казашка ў бегу з бар'ерамі).

34 балы з 39-ці беларускай камандзе прынесьлі жанчыны. Але гэта не фэномэн. Так, для Ўкраіны жанчыны здабылі 26 ачкоў з 36-ці, для Баўгарыі — 16 з 17-ці, для Румыніі — 47 з 47! Найбольшы посьпех мы мелі ў сілавых дысцыплінах, нейкія пэрспэктывы пазначыліся ў бегу ды хадзе, але ва ўсіх чатырох відах скокаў (у даўжыню, вышыню, трайным і з шостам) атрымаўся поўны правал. Ня трэ было адпускаць Зьмітра Маркава ў Аўстралію — былы беларус узяў золата. У сусьветнай прэсе, дарэчы, Маркава называюць “уцекачом ад беларускай дыктатуры”.

Сусьветных рэкордаў гэтым разам не было. Самую пераканаўчую перамогу атрымала кідальніца дзіды А.Мэнэндэс з Кубы. Яна апярэдзіла найбліжэйшую суперніцу на 5,88%. Наша Яніна Карольчык тут другая.

...Файны быў чэмпіянат, але ці шмат асалоды атрымалі ад яго беларускія тэлегледачы? Ня вельмі разгонішся глядзець тое РТР. Трэба, каб падлучаўся наш тэлеканал, хоць на найбольш пэрспэктыўныя для нашых спартоўцаў віды. Трэба папулярызаваць лёгкую атлетыку. Правы на тэлетрансьляцыю буйных спаборніцтваў каштуюць нятанна, але гэта ня той выпадак, калі трэба ашчаджаць грошы.

Мы жывем сярод краін-лёгкаатлетычных гігантаў, дый самі тут не апошнія. Дык чаму б ня зладзіць у Беларусі міжнародных спаборніцтваў? Скажам, лёгкаатлетычны матч Украіна-Польшча-Беларусь. Частку грошай можна было б сабраць з заўзятараў. Нашая лёгкая атлетыка вартая таго, каб браць з гледачоў грошы — нават за ўнутраныя спаборніцтвы, калі іх арганізаваць належным чынам.

Наступны чэмпіянат сьвету будзе ў Парыжы за два гады.

**A.U.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## Навіны за тыдзень

# Канфіскацыі-2

**16 жніўня супрацоўнікі Камітэту па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю наведалі Ваўкавыскі праваабарончы цэнтар «Аслона», цікавячыся дакумэнтацыяй на тэхнічнае абсталяваньне арганізацыі.** Днём раней яны склалі акт аб канфіскацыі кампутараў рэсурсавага цэнтру «Віленшчына», што ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёну, аднак супрацоўнікі цэнтру тэхніку не аддалі. Тая самая бяда напаткала супрацоўнікаў аршанскае газэты «Куцейна».

17 жніўня супрацоўнікі Дзяржаўнага камітэту фінансавых расьсьледаваньняў (ДФКР) сканфіскавалі ў прыватнай друкарні «Мэджык» 400 тысячаў асобнікаў спэцвыпуску газэты «Наша Свабода», матывуючы гэта тым, што друкарня «Мэджык» належным чынам не падрыхтавала фінансавых дакумэнтаў.

У той самы дзень супрацоўнікі Фрунзэнскага міжраённага аддзелу ўпраўлення ДФКР правялі праверку і склалі вопіс абсталяваньня ў офісе Беларускага рэспубліканскага клюбу выбаршчыкаў. Іх таксама цікавілі бухгальтарскія дакумэнты арганізацыі, ейная фінансавая дзейнасьць і г.д.

**Б.Т.**

# 10 верасьня – ля ЦВК

Працяг са старонкі 1.

мадзкіх арганізацыяў і незалежных выданьняў. А таму прыйдзецца абараніць перамогу, вывеўшы людзей на вуліцу 10 верасьня.

Запомніўся Станіслаў Шушкевіч (БСДГ): “Сп.Ганчарык і Домаш, я ўдзячны Вам за кемлівасьць, працавітасьць, мудрасьць. Я прашу ў Вас прабачэньня”. Ганчарык знайшоўся: “Мы таксама будзем пра Вас думаць лепш”.

Аляксей Кароль (Народная Грамада) чамусьці параўнаў зьвязку Ганчарык—Домаш са зьвязкай Гор—Лібэрман.

Пасьля абеду выступалі новыя аратары. Як заўсёды, запомніўся Павал Севярынец, што спачатку прамаўляў спакойна, а потым сарваўся на эмоцыі. “У нас моцныя кандыдаты! Адзінства — сіла! 10 верасьня моладзь зьдзейсьніць паход на Менск”, і мы зажывем у вольнай краіне.

Алег Трусаў, які ўзяў слова ад імя ТБМ, быў настроены больш пэсымістычна, чым задорны лідэр МФ. Ён зьвярнуў увагу на тое, што штаб Ганчарыка пакуль не падрыхтаваны і там вельмі шмат выпадковых людзей, якіх трэба, пакуль ёсьць час, выгнаць. А.Трусаў выказаў занепакоенасьць тым, што запозна дэмакратычная грамадзкасьць вырашылася з супольным кандыдатам, трэ было гэта зрабіць калі не зімой, дык, прынамсі, пры канцы вясны. Ён рабіў гэтыя высновы нібы для памяці, для наступнае выбарчае кампаніі.

У тым жа рэчышчы выступіў Міхаіл Чыгір. Ён сказаў, што лепш, каб кангрэсмэны з утульнага “Сукна” разьехаліся па вёсках, працаваць сярод людзей. Сам сп.Чыгір прыехаў на Кангрэс зь мітынгу падманутых уносчыкаў банку “БелБалтыя”. Ён зьвярнуў увагу на тое, што гэтыя людзі, якія маюць вышэйшую адукацыю, ня ведаюць, за каго галасаваць, а што казаць пра простых вяскоўцаў? Менавіта зь імі і трэба працаваць, даводзіць, пераконваць, — сьцьвярджаў экс-прэм'ер. Ён таксама засяродзіў увагу на тым, што ў недалёкай будучыні патаемныя сілы рыхтуюць правакацыі супраць Ганчарыка, таму варта быць пільнымі.

Былі й выступы весялейшыя. Гэтак, прадстаўнік Партыі Зялёных сп.Церахаў распавёў, што беларусы доўгі час жылі без экалягічных катастрофаў. Катастрофы ў нас быццам бы пачаліся толькі пасьля імпэрскіх заваёваў Расеі ў XVII ст.

Апошнім акордам стаў выступ паэтаў Някляева й Законьнікава, якія ствараюць “адзінаму” кандыдату слоганы кшталту: “Жанчыны й цёткі! Трэба Ганчарыка выбраць усё-ткі!” або “Калі ты хочаш дабра для радзімы — Ганчарык адзіны”.

У цэлым жа ўдзельнікі Кангрэсу пацешылі сваёй упэўненасьцю ў перамозе. Да выбараў застаецца менш за тры тыдні. Схамянемся, прэч сумневы! — гэткі матыў праходзіў праз усе выступы.

**Эдвард Людовіч**

## Навіны гаспадарскія

# Зноў гіпэрінфляцыя?

**Урад Беларусі пратэстуе супраць памкненьняў расейскага ўраду прадаць акцыі кампаніі “Слаўнафта”.** Калі кампанія стане цалкам прыватнай, узьнікнуць праблемы з пастаўкамі нафты ў Мазыр для перапрацоўкі, — лічаць беларусы. Канцэрн “Белнафтахім” папярэджвае, што з-за недахопу сыравіны вытворчасьць бэнзыну і дызпаліва ўжо ў верасьні істотна зьменшыцца.

**Беларусі зноў пагражае гіпэрінфляцыя.** Каб забясьпечыць рост заробкаў, за першую палову гэтага году надрукавалі грошай у 2,2 разы болей, чым за такі ж час летась. Але ніякай карысьці для эканомікі краіны ад гэтага няма: за павялічаныя заробкі людзі куплялі найперш імпартныя тавары. За студзень-чэрвень на складах назьбіралася прадукцыі амаль на 400 млн. даляраў ЗША, а колькасьць стратных прадпрыемстваў павялічылася да 34%. Курс беларускага рубля не абваліўся, дзякуючы “стабілізацыйнаму” крэдыту з Расеі.

**Уведзеныя сэртыфікаты на некаторыя будаўнічыя матэрыялы.** Гэта мае палепшыць якасьць шклопакетаў, кафлі, драўляных плітаў і палімэраў.

**“Вэртыкальшчыкам” забаранілі купляць імпартны грамадзкі транспарт.** Забарону амаль адразу ж праігнараваў кіраўнік Магілёўшчыны Барыс Батура, які набыў для вобласьці замежныя аўтобусы, заявіўшы, што яны надзейнейшыя і таньнейшыя.

**Сяржук Іваноўскі**

## Троечнікі з гарвыканкаму

**На праспэкце Скарыны між плошчамі Незалежнасьці і Кастрычніцкай на дамах зьявіліся шыльды з надпісам «Ф.Скарыны прашпект».**

Адкуль узялося слова «прашпект», у Менскім гарвыканкаме патлумачыць не змаглі. На тарашкевіцы яно гучыць як «праспэкт», на наркамаўцы — «праспект». Невядома, ці будуць перарobleныя шыльды з памылкамі і хто ў гэтым выпадку кампэнсуе гарадзкому бюджэту страты.

**Паводле агенцтва «Ю.С.Ньюс»**

# Налёт на лягер

**14 жніўня на Мацярынскае возера, што каля мястэчка Сьвіслач, зьехалася моладзь з усяго Пухавіцкага раёну, усіх — чалавек 40.** Акцыя ладзілася ў межах мабілізацыйнай кампаніі, было чым заняцца ўсім — мясцовыя мастакі размалёўвалі ахвочым целы, юнакі і дзяўчаты гулялі ў валейбол, купаліся... Недзе аб адзінаццатай вечара нечакана наляцела дзясяткі тры скінгедаў, пачалі каламі зьбіваць людзей. Дзяўчат, якіх была большасьць, праўда, амаль не чапалі. Скіны зьбілі колькі хлапцоў, патрушчылі й папалілі намёты і прыватныя рэчы актывістаў, спалілі вялікі бел-чырвона-белы сьцяг ды паабяцалі неўзабаве вярнуцца. Асабліва шчыравала адна дзяўчына-скініха. Міліцыя, што ўзьнікла невядома адкуль праз 10 хвілінаў, скінула ўсю віну за інцыдэнт на Вольгу Галубовіч, галоўную арганізатарку форуму, маўляў, як гэта вы — “сабраліся ў паход і міліцыю не папярэдзілі”. Дабраўшыся да зацішнага месца на ўскрайку Сьвіслачы, моладзь пераседзела да сьвітанку.

Падчас налёту скіны крычалі: “Што тут за БНФ сабраўся?” ці “Ах, вам Лукашэнка не падабаецца!”. Вось жа, няма згоды нават сярод моладзі. Беларускія скіны, як бачым, — за Лукашэнку.

Каб арганізатары былі краёўцаў запрасілі папрысутнічаць, такога б ня здарылася.

**С.См.**

## Пацярпелыя за Беларусь

13 жніўня ў Жодзіне былі затрыманыя зуброўцы Лявон Ачапоўскі, Віталь Кошалеў, Дзяніс Мархаток, Аляксей Талстоў, Франц Корзун, Зьміцер Чарткоў, Павал Красоўскі, Аляксей Уланаў, Віктар Барысаў, Зьміцер Ляшчынскі, Яўген Мурашка. У Сьветлагорску ў той самы дзень былі затрыманыя зуброўцы Алесь Торап, Эдуард Саранчук, Сяргей Гардзіевіч, Аляксей Жура, Юлія Шкурко, Руслан Лютарэвіч, Кірыла Ксяндзоў, Мая Бобрык, Аляксандар Іваноў, Андрэй Ігнаценка, Сяргей Сарока, Аляксандар Сямашка, якія разгарнулі ля будынку КДБ бел-чырвона-белы сьцяг і сьпявалі беларускія песьні. 14 жніўня ў Горадні затрымалі 16-гадовага Глеба Койпіша. 15 жніўня ў Віцебску былі затрыманыя зуброўцы Марына Камінская, Кірыла Мінееў, Ігар Альшанка, а таксама сабачка-пэкінэс Чыліта. У Шклове затрымалі няпоўнагадовых зуброўцаў Аляксандра Паўловіча, Зьмітра Шалашкова, Міхася Кісялёва, Дзяніса Сенакосава і Максіма Патупчыка, якія, апрануўшы белыя халаты, а адзін – маску з пэўнымі рысамі твару, паехалі сьмяшыць людзей у Гарадзец. Супраць іх распачалі крымінальную справу паводле артыкулу 368 – абраза прэзыдэнта. Гэта першая ў Беларусі справа такога кшталту пасьля таго, як пачаў дзейнічаць новы Крымінальны кодэкс. Хлопцам пагражае да трох гадоў зьняволеньня. 17 жніўня ў Віцебску былі затрыманыя Уладзімер Плешчанка, Барыс Хамайда з КХП-БНФ і зуброўцы Аляксандар Сухадолаў, Уладзімер Цішуцін і Аляксандар Горскі. 18 жніўня ў Глыбокім былі затрыманыя зуброўцы Вольга Марозава і Андрэй Палусін за тое, што расьпісвалі заклікамі будынак аўтавакзалу. Прачытаўшы натацыі, іх адпусьцілі. У Антопалі затрымалі Алеся Леўчука з “Руху добрай волі” за тое, што ён падарыў старшыні сельсавету сатырычны твор “Канстытуцыя Белабрысіі”. У Магілёве былі затрыманыя Віктар Нізаўцоў, Уладзіслаў Вішнявецкі, Аляксандар Каліта, Максім Хаменка, Раман Міцін, Іван Панюціч, Сяргей Пашкевіч, Юры Пчэльнікаў, Яўген Сувораў, Максім Шэмплехаў і яшчэ 9 зуброўцаў, а таксама дзед з Чэрыкава, у якога без нагляду на аўтавакзале застаўся хворы сын. Дзеда пратрымалі ў пастарунку 3 гадзіны, бо ён падчас затрыманьня двох амонаўцаў скруціў. У Менску затрымлівалі зуброўцаў Аляксея Шыдлоўскага, Міколу Лугаўцова, Паўла Вайноўскага, Васіля Жакава, Кацярыну Чудакову, Ганну Ягораву, Ірыну Тоўсьцік, Сяргея Марцалева, Юр'я Антонава, Аляксандра Атрошчанкава, Зьмітра Міхлюкова, Аляксандру Анджыеўскую, Вольгу Марозаву і Андрэя Пятрова. У Барысаве была затрыманая Алеся Ясюк і яшчэ 8 зуброўцаў, імёны якіх пакуль рэдакцыі невядомыя.

## “Вілы для маскалёў”

**У цікавы спосаб зарабляюць на жыцьцё горацкія жыхары, што жывуць блізу лесу.** Раз-пораз вялізныя лесавозы зь бярвеньнем, што едуць у Расею, спыняюцца ня лясных беларускіх сьцяжынах: іхныя колы трапляюць на адмысловыя прыстасаваньні, наторканыя вострымі кавалкамі сялянскіх вілаў. А тутэйшыя людзі за пэўную плату заўжды гатовыя дапамагчы бедалагам-кіроўцам.

**Паводле “Тыднёвіка Магілёўскага”**

# За Ганчарыка ці процi ўсіх?

**Дык галасаваць мне за Ганчарыка ці не? Такое пытаньне задаюць цяпер у Беларусі тысячы людзей, якія сымпатызуюць іншым палітыкам, але й Лукашэнку галасоў аддаваць ня хочуць. Мы запрасілі ў рэдакцыю "Нашай Нівы" аднаго з такіх — палітоляга, кандыдата філязофскіх навук Уладзімера Мацкевіча.**

**"НН": Вы асабіста што вырашылі: будзеце галасаваць за Ганчарыка ці не?**

**У.М.:** Падыходжу да гэтага пытаньня рацыянальна. У нас зараз вельмі просты выбар. Мы ў лепшым становішчы, чым у 1994 г., калі 2 дэмакратычныя кандыдаты супрацьстаялі 4-м савецкім. Зараз выйшлі 2 на 2. На жаль, мы па сёньняшні дзень такія памяркоўныя, лагодныя, таму адзіным кандыдатам застаецца Ганчарык. І ў нас проста іншага выбару няма.

**"НН": Але й на мінулых выбарах лічылася, што горшага за Кебіча няма...**

**У.М.:** Нясталыя грамадзтвы могуць перабываць у дыктатарскім стане дзесяцігодзьдзямі, некалькі пакаленьняў. Мы павінны паглядзець на сябе, на стан нашай грамадзкай сьвядомасьці. Паўтара году таму стала вядома, што Ганчарык будзе балятавацца ў прэзыдэнты, і трэ было тады зьвярнуць на яго ўвагу. Грамадзтва не заўважыла тады гэтага. А я назіраў за Ганчарыкам і мяркую, што ён амаль не зрабіў памылак. Ён ня быў на першым пляне, але за год стаўся тым, на кім сышлася большасьць чыньнікаў грамадзкага жыцьця. Я не разумею, калі кажуць, што Ганчарык ня лепшы за кагосьці або ўвогуле дрэнны. Ад набыцьця незалежнасьці Беларусі Ганчарык быў ейным прыхільнікам і ніколі не выказваўся супраць сувэрэнітэту, ці за здраду, ці за саюз з Расеяй. Як дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Ганчарык быў адным з тых, хто меў высокую пасаду, але застаўся зь Вярхоўным Саветам, не пайшоў у палату. Ён, натуральна, левы, сацыял-дэмакратычных поглядаў, але ўсё ж дэмакратычных і нашых, хай ён і ня ў першых шэрагах змагароў. Дык што вы хочаце ад чалавека, які ўсё жыцьцё адпрацаваў на высокіх пасадах? Калі мы ня хочам зноў атрымаць харызматыка, які нікога ня будзе слухаць, дык мусім выбраць Ганчарыка.

**"НН": Чаго, па-Вашаму, ня будзе за Ганчарыкам з таго, што адбываецца за Лукашэнкам?**

**В.М.:** Думаю, ня будзе палітычных забойстваў, перасьледу людзей за погляды, ня будзе парушэньня Канстытуцыі, ня будзе брутальнай улады, што не падпарадкоўваецца нават прынцыпам, якія сама дэкляруе. Ня будзе, пэўна, і здрады нацыянальным інтарэсам, можа быць, ня ўсё будзе атрымлівацца, але ж здрады таксама ня будзе. Надыдзе пэўная перадышка на шляху будаўніцтва. Я не спадзяюся на тое, што Ганчарык здолее змабілізаваць грамадзтва на адбудову, адраджэньне, але скласьці спрыяльныя, мірныя ўмовы для таго, каб у грамадзтве ўзмацніліся сілы, якія здольныя да канструктыўнай працы, Ганчарык здольны.

**"НН": То бок гэта такі прэзыдэнт на пераходны пэрыяд?**

**У.М.:** Я б гэтак не казаў, бо мы згубім час на пераходны пэрыяд. Гэта прыпынак для мабілізацыі рэсурсаў, вызначэньня, звароту ў актыўную палітычную дзейнасьць тых слаёў грамадзтва, якія згубіліся: бізнэсоўцаў, дзеячоў культуры і палітыкаў, што сёньня ў эміграцыі, і тых маладых, якія ня могуць прабіцца ў гэткіх умовах. Ён дазволіць нам падцягнуць рэсурсы,



Уладзімер Мацкевіч

самавызначыцца й пачаць працу, не зважаючы, хто стаіць на чале ўраду.

**"НН": Ці не пачнецца зь вяртаньнем старое намэнклятуры ва ўладу чарговы перападзел маёмасьці?**

**У.М.:** Я ня бачу нічога дрэннага ў тым, што вернецца да ўлады гэтак званая намэнклятура. Тым больш, гэта не намэнклятура савецкіх часоў. Гэта ж не Малафееў, а людзі кшталту Шушкевіча. Гэтая намэнклятура ўжо трошкі іншая, зараджаная перабудоваю, дэмакратызаваная.

**"НН": Ці слушнае ўвогуле ўжываньне тэрміну "намэнклятура", узятага з савецкіх рэаліяў? Ці можна праз 10 год пасьля развалу Савецкага Саюзу гаварыць пра намэнклятуру як пра сацыяльную групу й, калі хочаце, "стан душы"?**

**У.М.:** Ёсьць два погляды на гэтае пытаньне. З аднаго боку, намэнклятура — гэта ня людзі, а прынцып, калі людзі займаюць пасады не па здольнасьці, а па картатэцы з асобнымі адзнакамі ў картцы й кар'еры. Калі людзі, якія ў свой час трапілі ў гэтую картатэку, цяпер дабіваюцца чагосьці ўласнымі намаганьнямі — гэта ўжо разбурэньне намэнклятуры. Зь іншага боку пад намэнклятурай можна разумець выхаванцаў савецкай сыстэмы, зь якіх вэрбаваліся кадры. На сёньняшні дзень гэтыя выхаванцы застаюцца. І іх шмат, і яны працаздольныя. Вазьміце хоць бы навуку ці адукацыю. Кіраўніцтва ўнівэрсытэту складаецца з гэткіх намэнклятурнікаў. Цалкам я б не адмаўляўся ад прынцыпу намэнклятуры і не казаў бы, што яго ўвогуле не існуе. Так, яна здэмакралізаваная, ня тая, што была, але ж ёсьць.

**"НН": Здаецца, што тым людзям, якія будуць агітаваць за Ганчарыка, недастаткова рацыянальных падставаў, ім патрэбная іншая матывацыя, можа быць апантанасьць чымсьці... ідэяй, асобай?**

**"НН":** Ня трэба ім ніякай апантанасьці асобай. Я сам сутыкаўся зь людзьмі, якія працуюць з электаратам "твар у твар". Трэба толькі быць чалавекам прывабным, добра гаварыць і ўмець слухаць. Так, уменьне слухаць... Хоць мала гэтых актывістаў, папросту мала. На жаль.

**"НН": Ганчарык прызнаецца, што Фэдэрацыя Прафсаюзаў дапускала ў мінулым вялікія памылкі, як гэта было ў выпадку з працаўнікамі мэтрапалітэну. Ці зьмянілася ФПБ цяпер?**

**У.М.:** Што тычыцца страйку, то ўдзельнікамі яго былі менавіта сябры Фэдэрацыі. Незалежны прафсаюз быў збоку. А вось Канах, які ўзначальваў прафсаюзную суполку транспартнікаў, быў з ФПБ, як і астатнія кіраўнікі страйку. Потым яны сышлі, не пагадзіўшыся зь дзеяньнямі вярхушкі. Гэта агульная праблема Фэдэрацыі, бо за гады незалежнасьці была зьмененая шыльда, а ня дзейнасьць прафсаюзаў. Людзі, якія сядзяць на пасадах у ФПБ, залежаць ад уплывовых сябраў прафсаюзаў, а гэтымі ўплывовымі сябрамі могуць быць наймальнікі... З-за гэтай алягічнай сытуацыі ФПБ ня можа ўступіць у сусьветны зьвяз прафсаюзаў. І Ганчарык гэта разумее, як разумее Бухвостаў і яшчэ некалькі высокапастаўленых сяброў ФПБ. Але што могуць зрабіць некалькі дэмакратычна настроеных людзей? Вы ж ведаеце, зь якімі ахвярамі й намаганьнямі Ганчарык зрабіўся ў мінулым годзе зноў старшынём ФПБ? Гэта было няпроста, асабліва пасьля таго, як стала вядома, што ён будзе балятавацца ў прэзыдэнты.

**"НН": Такім чынам, гэтым разам нашы выбарцы мусяць галасаваць розумам, а ня сэрцам?**

**У.М.:** Гэтым разам прагаласаваць сэрцам народ ня здолее. І я лічу, што гэта добра, бо ня трэба любіць Ганчарыка й прагнуць яго ўсёй душой. Добра, каб у нас быў такі шэранькі, працаздольны, памяркоўны прэзыдэнт, а не апантаны нейкай ідэяй, які будзе гнаць нас невядома куды.

**"НН": Зьмена Лукашэнкі на Ганчарыка будзе ў любым разе рэвалюцыйнай зьменай для Беларусі. Народ пры такім разьвіцьці падзеяў абавязкова павесіць над Домам Ураду бел-чырвона-белы штандар. Ці ня здыме яго Ганчарык пасьля сваёй прысягі?**

**У.М.:** Пытаньне з сымболікай дастаткова складанае, для яе вяртаньня мусіць быць праведзеная адпаведная піар-кампанія. Бальшыні гэта трэ будзе патлумачыць. Ну, а калі ўсё ж народ павесіць гэты штандар, думаю, Ганчарык ня будзе яго здымаць. Я ня думаю, што замена Лукашэнкі на выбарах будзе непазьбежна рэвалюцыйная. Вось калі Лукашэнка застанецца яшчэ на пару гадоў, тады сапраўды, рэвалюцыя магчымая. Мы пераможам ужо тады, калі 9 верасьня, у першым туры, не пераможа Лукашэнка. Таму пералому ў сьвядомасьці, які адбудзецца за два тыдні паміж першым і другім турам, я думаю, ня будзе роўных ад 1996 г. Адразу разбурыцца міт пра ўсенародную падтрымку Лукашэнкі. Гэта стане відавочным ня толькі шараговым выбарцам, але й тым, хто робіць палітыку — у тым ліку расейскаму боку й рэгіянальным уладам. І яны адразу ж адмовяцца падтрымліваць Лукашэнку.

**"НН": За часам кіраваньня Лукашэнкі багата людзей пасадзілі ў турму з палітычных і эканамічных прычынаў, разарылі, пазбавілі магчымасьці вучыцца... Ці будзе, па-Вашаму, Ганчарык ладзіць нейкую люстрацыю, судзіць Лукашэнку?**

**У.М.:** Нельга пакідаць злачынствы без пакараньня, нават умоўнага. Акрамя люстрацыі, важнае пытаньне адукацыйнай настрыфікацыі — перагляду статусаў уплывовых навукоўцаў з грамадзкіх навукаў, якія ў свой час абаранялі ідэалягічныя дысэртацыі, а цяпер кіруюць адукацыяй. Ці зоймецца гэтым Ганчарык? Ня ведаю.

**"НН": Ці забароніць Ганчарык нацысцкія арганізацыі кшталту РНЕ?**

**У.М.:** У Ганчарыка на гэта ня будзе правоў. Забараніць арганізацыю ў дэмакратычнай краіне можна толькі праз суд, калі суд давядзе, што ў ейнай дзейнасьці прысутнічае элемэнт гвалту, распальваньня нацыянальнай варожасьці й іншыя парушэньні закону. Трэба, каб нехта з грамадзян ці грамадзкая арганізацыя ўзбудзіла справу з гэтае нагоды.

**"НН": Па-Вашаму, Ганчарык па характары лепшы чалавек, чым Лукашэнка?**

**У.М.:** На жаль, гэты чалавек усё яшчэ недастаткова вядомы. Трэ было імкнуцца, каб прозьвішча, твар, сама асоба Ганчарыка сталася як мага больш вядомай. Нават не клапаціцца пра станоўчы іміджҗ — хай будзе проста вядомасьць.

А Ганчарык памяркоўны, схільны прыслухоўвацца да іншых меркаваньняў, без аўтарытарных замашак, добры сямейнік. Яшчэ не разглядаючы Ганчарыка як важкую палітычную фігуру, я завёў неяк пра яго размову зь ягоным звычным антаганістам з Кангрэсу Дэмакратычных Прафсаюзаў Генадзем Быкавым. І Быкаў мне кажа: "Ганчарык — наш чалавек. Ён мой антаганіст па прафсаюзнай лініі, а як прыхільнік беларушчыны, незалежнасьці, ён заўсёды быў пасьлядоўны. Ніколі ён ня быў змагаром за гэта, але прыхільнікам быў заўсёды". І мне гэта ў ім падабаецца. Ён дэмакрат. У ФПБ ён не навязваў сваіх поглядаў, прыслухоўваўся да меркаваньня шараговых сяброў Фэдэрацыі. Я не ўяўляю сабе Ганчарыка на браневіку, ну й хай сабе. Мне падабаецца ў Ганчарыку тое, што ён сярэдні беларус. Дый твар у яго досыць прывабны. Ня той, які ў "Рэзанансе" паказваюць са скажэньнямі. Высакародная сівізна, шырокі лоб, добрыя вочы. Прыемная размова, разважлівы, спакойны й разумны.

**Запісала Сьвятлана Курс**

# Пазьняк супраць усіх

**На мінулым тыдні Зянон Пазьняк зьвярнуўся да беларусаў з заклікам на прэзыдэнцкіх выбарах 9 верасьня галасаваць супраць усіх.**

"Як і ў 1994-м годзе на другім туры, для беларусаў выбару няма. — піша ён. — Усе кандыдаты прамаскоўскай арыентацыі". Кожны зь іх, па словах Пазьняка, гатовы весьці Беларусь да "маскоўскай ямы". "Памятайма, што і ў першым, і асабліва ў другім туры галасаваньня, трэба будзе перакрэсьліць усіх", — заклікае Пазьняк. Калі ж усе прагаласуюць супраць усіх — выбары не адбудуцца і "ўлады змушаныя будуць прызначыць новыя, а мы атрымаем магчымасьць вылучыць іншых, беларускіх кандыдатаў", — мяркуе ён. На думку Пазьянка, усім кампрамісным стратэгіям можна супрацьпаставіць "нашу Беларус-



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

кую Салідарнасьць у абароне асноўных беларускіх каштоўнасьцяў: мовы, незалежнасьці, нацыянальнай маёмасьці. Усе беларусы, незалежна ад поглядаў і якіх бы там ні было прыхільнасьцяў, могуць салідарызавацца ў абароне асноўных здабыткаў нацыі". Бо "Беларусь, як кажа наша беларуская моладзь, — гэта сьвятое".

**С.М.**

## Нататкі старога апазыцыянэра

## *За дэмакратыю яшчэ давядзецца пазмагацца*

Што павінна стаяць паперадзе — палітычная мэта ці маральны прынцып, "грамадзкі плян" ці "грамадзкі прынцып"? Ці можна дзеля "посьпеху дня" забываць на гэтыя прынцыпы? Ці можа "практычная дзейнасьць" палітыка быць свабоднаю ад прынцыпаў "маральнага маштабу"? У сувязі зь дзейнасьцяй самога Ў.Ганчарыка і "галоўкі" ягонага перадвыбарчага штабу згадваю, што ён называў сябе сацыял-дэмакратам, а "НН" назвала яго сацыялістам (трэба думаць, дэмакратычным). А сацыял-дэмакратыя вучыць, што немаральная палітыка — контрапрадуктыўная. Пакінуўшы за сабою права апісаць і прааналізаваць дзеяньні сп.Ганчарыка і ягоных паплечнікаў пасьля выбараў, я хачу сказаць тым інтэлігентным людзям, якія чытаюць "НН": 9 верасьня мы будзем выбіраць паміж большым і меншым злом.

Валерка Булгакаў мае рацыю: "Досыць... важнаму чалавеку зганіць Лукашэнку... – часта ў агульных фразах і вельмі расплывіста... – як яго адразу запісваюць у апазыцыянэры, актыўна друкуюць у незалежных СМІ, прадстаўляюць замежным візіцёрам і запрашаюць на сакрэтныя сустрэчы" ("НН" ад 13 жніўня). Па-мойму, В.Булгакаў памыляецца ў адным — калі піша пра наіўнасьць апазыцыянэраў, перакананых дэмакратаў. З правілаў бываюць выключэньні, ня ўсе вэтэраны дэмакратычнага руху — пераканаyныя дэмакраты.

"НН" загаварыла пра маральнасьць палітыкі, пра шчырасьць палітыкаў. Інтэлектуалы не павінны даваць палітыкам хлусіць. "Не падманвай! Не хлусі!" — гэтае прыказаньне павінна быць на сьцягу дэмакратыі. Агідна слухаць і чытаць ману, прамоўленую або напісаную чалавекам, які ўдае зь сябе дэмакрата. Яшчэ агідней, калі гэтую хлусьню падхопліваюць недзяржаўныя СМІ. А яны ж першыя павінны казаць хлусу: ты маніш. Некаторыя дзеячы карыстаюцца з таго, што орган друку, публіцыст, інтэлектуал, не выкрывае гэтай маны, каб тым самым не даваць аргумэнту ў рукі прадстаўнікоў улады. Не атрымаўшы належнага адпору, яны працягваюць хлусіць і далей, уваходзяць у смак, у раж.

8 жніўня адбыўся зьезд Партыі Працы. Тое, што ён адбыўся ў працоўны дзень, паказвае, што ў гэтай партыі сабраліся збольшага прафсаюзныя босы, бо толькі яны маюць магчымасьць адсутнічаць на заводзе ў працоўны час. Бухвостаў шчыра прызнаецца, што ўплыў партыі невялікі, што ў яе шэрагах налічваецца 1300 чалавек. ПКБ мацнейшая за БПП і БСДП (НГ), але й ёй не ўдалося сабраць належную колькасьць подпісаў за свайго шэфа. Падчас выбарчае кампаніі ўсе партыі паказалі сваю слабасьць. Яны ня здолелі вылучыць на галоўную пасаду ў краіне "сваіх людзей", якія, фармальна не належачы да партыяў, былі б іхнімі самымі вернымі саюзьнікамі ці прыхільнікамі. Сярод лідэраў партыяў не знайшлося аніводнага дастаткова яркага, уплывовага палітыка, які б здолеў уплываць на паводзіны намэнклятуршчыкаў. Дэмакратыя апынулася аўтсайдэрам.

У артыкуле д-ра Оргіша "Беларуская хвароба" ў "Народнай Волі" выразна паказана, якія аргумэнты выкарысталі б хаўрусьнікі супраць хаўрусьніка Домаша, калі б той не згадзіўся зьняць сваю кандыдатуру: "нацыяналіст", "антырасеец"... Між тым Домаш паказаў сябе ўплывовым і прыцягальным палітыкам. Ці здолее ён паказаць сябе мудрым палітыкам?

**Анатоль Сідарэвіч**

# Грант ад Кадафі?

**Беларусь мае наведаць лідэр Лібійскай Джамахірыі (у перакладзе з арабскай — "народнай дэмакратыі") Муамар Кадафі. Прэс-сакратар МЗС Павал Латушка паведаміў, што візыт адбудзецца ўжо ў гэтым месяцы, удакладняецца толькі дата.**

Дамова пра візыт Кадафі ў Беларусь была дасягнутая яшчэ ў лістападзе 2000 г., калі Лукашэнка гасьцяваў у Лібіі. Кадафі тады пабяцаў інвэставаць грошы ў беларускую эканоміку. Пасьля вяртаньня з Трыпалі Лукашэнка горача дзяліўся ўражаньнямі ад паездкі: "З Кадафі было проста дамаўляцца, бо абедзьве краіны міралюбныя і глядзяць аднолькава на асноўныя эканамічныя і палітычныя праблемы".

Міралюбнасьць дапамагае Кадафі фінансаваць дыктатарскія рэжымы Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, Тога, Гамбіі. Спансараваў ён, па некаторых зьвестках, і Мілошавіча. Лібія займела аўтарытэт краіны-тэрарыста пасьля выбуху ў заходнебэрлінскай дыскатэцы ў 1985 г. і падкладаньня бомбы ў самалёт, што ўпаў на Локербі ў Шатляндыі ў 1986 г.

Што яго вядзе ў Беларусь перад самымі выбарамі? Лукашэнка наўрад ці прымаў бы такога адыёзнага госьця па сваёй волі. Ёсьць падставы меркаваць, што гэты прыём Кадафі можа быць аддзякай кіраўніцтва Беларусі за выдзеленыя на перадвыбарную кампанію грошы. Калі гэта праўда, тады становіцца ясна, адкуль у нас 100-даляравыя заробкі. Лукашэнка, у такім разе, выбраў хітры шлях: ён узяў грошы ад таго, ад каго ніяк ня можа трапіць у залежнасьць.

Лібія любіць купляць сабе прэстыж за грошы. Але ж Беларусь — гэта ня ЦАР і ня Тога, а эўрапейская краіна. Праўда, такое абстрактнае паняцьце, як рэпутацыя дзяржавы, заўжды цікавіла нашы ўлады менш, чым рэчы матэрыяльныя.

**Эдвард Людовіч**



**1 верасьня 1969 г. група вайскоўцаў на чале з 27-гадовым лейтэнантам-бэдуінам Муамарам Кадафі зьдзейсьніла ў Лібіі дзяржаўны пераварот і зрынула манархію. У той час краіна (яе тэрыторыя — 1728 тыс. кв. км, у 8 разоў большая за беларускую, а насельніцтва — 4,6 млн. чалавек, у 2 разы меншае, чым беларускае) мела добрыя стартавыя мажлівасьці. Багатыя радовішчы нафты маглі ўзьняць яе да ўзроўню сёньняшніх Арабскіх Эміратаў. Але сацыялістычны шлях разьвіцьця зрабіў зь Лібіі багатую бяднячку. Да гэтага часу там няма чыгунак, напрыклад. У 1977 г. у Лівіі быў абвешчаны Рэжым Народнай Дэмакратыі — фармальна краінай кіруе Уселібійскі народны сход. А Кадафі ўзначаліў Рэвалюцыйнае Кіраўніцтва краіны, якое толькі "праводзіць у жыцьцё" рашэньні Сходу. Ад 1977 г. Кадафі пакінуў Трыпалі і пасяліўся ў шатры сярод пустыні.**

## КАДАФІ АБО КАЗАФІ?

Мы звыклі пісаць імя лібійскага дыктатара праз "д", хоць па-арабску яно пішацца праз літару "зат" (ض), якая ў абэцэдах беларускіх мусульманаў перадаецца як "з". Так што па-беларуску правільней было б казаць Казафі.

## Расея—Украіна
### Мяжа

**МЗС Расеі не пагаджаецца з плянам дэмаркацыі расейска-украінскае мяжы.** Украінскі бок хоча, каб пасьля дэлімітацыі мяжы пачалася яе дэмаркацыя. (Часам дэлімітацыі мяжу вызначаюць на мапе і ўзгадняюць на месцы, а пры дэмаркацыі абазначаюць яе на мясцовасьці слупамі, паласой і г.д.) Расейцы хочуць, каб мяжа "дружбы і ўзаемаразуменьня" засталася недэмаркаваная, бо "гэта замінала б разьвіцьцю гаспадарчых сувязяў між памежнымі рэгіёнамі". Кіеў мае іншае меркаваньне, бо дэмаркацыя дазволіць яму патрабаваць зьмякчэньня ці скасаваньня візавага рэжыму між Украінай і краінамі Шэнгенскай зоны. Дый дэмаркаваная мяжа можа засьцерагчы ад патэнцыйных тэрытарыяльных канфліктаў у будучыні.

## Тайлянд
### Расстрэл за наркотыкі

**Украінскую студэнтку Вікторыю Мамантаву ў Бангкоку прысудзілі да сьмяротнага пакараньня за перавозку наркотыкаў.** Дзяўчына была арыштаваная летась у верасьні, калі тайляндзкая паліцыя знайшла ў ейным пакоі 1,3 кг гераіну. Сама яна кажа, што гераін ня ейны, а знаёмага мурына, які сказаў ёй, што гэта зёлкі, і папрасіў завезьці іх ягонай стрыечнай сястры ў Інданэзію. Шанцаў на памілаваньне вобмаль.

## Літва
### Беларусы на 1% лепшыя

**Тыднёвік *Veidas* надрукаваў вынікі апытаньня літоўцаў аб іх стаўленьні да суседзяў.** Сваімі найлепшымі суседзямі, аказалася, летувісы лічаць латышоў (37,2%). На другім месцы — палякі (27,6%). Нас за добрых суседзяў уважаюць толькі 6% апытаных. Праўда, у расейцаў рэйтынг яшчэ меншы — 5%.

## Латвія
### Стэрылізацыя байцовых сабак

**Усе байцовыя сабакі і іх мяшанцы да 1 верасьня 2002 г. павінны быць стэрылізаваныя** — такую пастанову прыняў латыскі ўрад. Крыху раней ён забараніў купляць, гадаваць і ўвозіць у Латвію байцовых сабакаў, накшталт пітбультэр'ераў альбо аргентынскіх догаў. Тым "байцам", якія ўжо ёсьць у Латвіі, дазволяць дажыць свае дні, але толькі пасьля лягчаньня.

**Навіны падрыхтаваў С. Р.**

## Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў
# Сьмелыя лесьбійцы ды маласольныя агуркі

**Жыхары Лесбасу выгналі з востраву ўсіх альбанскіх імігрантаў,** пасьля таго, як ля начнога клюбу ў вёсцы Лутра чацьвёра альбанцаў пабіліся з грэкамі і паранілі тых нажамі. Мясцовы суд даў хуліганам 37 месяцаў турмы з адтэрміноўкай і загадам неадкладна пакінуць выспу. Аднак мясцовых жыхароў раззлаваў такі лёгкі прысуд. Яны вырашылі, што ўсе 150 альбанцаў, якія жывуць у вёсцы, павінны зьехаць зь Лесбасу. Тыя перапужаліся і ўцяклі. Грэцкі прэзыдэнт К.Стэфанопулас ухваліў дзеяньні лесьбійцаў і сказаў, што гэта не расізм, а слушны гнеў супраць чужаземцаў, якія не шанавалі гасьціннасьці гаспадароў.

Канфлікты паміж карэннымі жыхарамі і эмігрантамі — бяда ўсіх рэгіёнаў, якія складаюцца з краінаў рознай заможнасьці.

**12 літоўскіх цыганоў папрасілі ў Хельсынках палітычнага прытулку.** Фіны баяцца, каб гэты выпадак ня стаўся пачаткам цэлай хвалі выездаў. У Літве ў спэцыяльных табарах жыве каля 3,5 тыс. цыганоў. Яны сядзяць бяз працы, з-за нізкага ўзроўню адукацыі ня ведаюць літоўскае мовы, сярод іх шмат наркаманаў і злачынцаў. Штопраўда, літоўскі ўрад распрацоўвае пляны інтэграцыі цыганоў у летувіскае грамадзтва, нават абяцае пабудаваць ім у Вільні школу.

**А брытанскія і чэскія ўлады былі вымушаныя скасаваць нефармальны агляд "на цыганскасьць"**, уведзены ў Праскім аэрапорце для пасажыраў, што кіруюцца ў Брытанію. Грамадзяне Чэхіі маюць ільготы на ўезд у Злучанае Каралеўства, але, каб туды не эмігравалі й чэскія цыганы,



брытанцы цішком дамовіліся з чэхамі аб нефармальнай праверцы пасажыраў. Дазналася прэса, узьняла лямант — і Лёндан мусіў адступіць.

Як бачым, і слабейшыя могуць дабівацца праўды ў барацьбе з дужэйшымі. Гэтае пацьвярджае і польскі прыклад.

**Эўразьвяз патрабуе, каб палякі правялі рэгістрацыю ўсяе свойскае жывёлы.** Можна, зразумела, свайго тавару не рэгістраваць, але тады анічога з тае жывёлы не прадасі. Нават малака ніхто ня купіць, калі ў каровы няма пашпарту. Апроч таго, вяскоўцы цяпер мусяць загадзя паведамляць пра прыплод. Раз-пораз імкненьне ва ўсім дабіцца адзінага "эўрастандарту" даходзіць да сьмешнага. Так, нядаўна чыноўнікі з Эўразьвязу не хацелі рэгістраваць у якасьці прадукту для продажу... польскія маласольныя агуркі бо, маўляў, у Эўропе такога не спажываюць і не вырабляюць. Палякі ледзьве давялі, што маласольныя гуркі ядуць адвеку і не адмовяцца ад іх пасьля ўваходу ў Эўразьвяз. Урэшце, агуркі сьпісалі на польскую нацыянальную спэцыфіку.

**Сяргей Рак**

## Харватыя
### Сьмерць аквалянгістаў

**Харвацкі браканьер забіў дынамітам двух нямецкіх аквалянгістаў.** Відаць, бедакі падаліся яму касяком рыбы. Зь месца здарэньня ён зьбег. Цяпер яго шукаюць.

## Малдова
### Прадалі апошнія зьнішчальнікі

**Малдова прадала апошнія свае 6 зьнішчальнікаў Міг-29 і 13 ракетных установак "зямля-зямля".** Тамтэйшы міністар абароны кажа, што войску не патрэбныя ані авіяцыя, ані артылерыя. Насамрэч Кішынэў папросту ня мае грошай, каб утрымліваць гэтую тэхніку.





## Корсыка
# Вэндэта незалежнікаў

**У ноч з чацьвярга на пятніцу забілі былога лідэра карсыканскіх незалежнікаў Франчэска Сантоні. Застрэлілі яго, калі ён сыходзіў зь вясельля свайго сябра (маладога пры гэтым паранілі). Падазраюць, што зрабілі гэта радыкальныя нацыяналісты.**

Сантоні меў падставы чакаць помсты зь іхнага боку, бо ня толькі адышоў ад свае былое справы , але і ў чэрвені мінулага году выдаў кніжку "Ў пагоні за любымі грашыма", у якой пісаў, што колішнія змагары за свабоду нібыта зганьбілі свае ідэалы і ператварыліся ў звычайнюсенькіх мафіёзі. Жан-Мішэль Росі, суаўтар скандальнае кнігі, загінуў яшчэ летась.

Корсыка ў складзе Францыі з 1768 году, калі Генуя, што валодала выспай з канца XIII ст., прадала яе французам. Жыве там больш за 250 тыс. чалавек (0,44% ад насельніцтва Францыі), а плошча краю складае 8,68 тыс. кв.км. (1,6% французскай, гэта прыкладна, як нейкія 4 раёны Беларусі, разам узятыя). Валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва дасягае на Корсыцы 15 тыс. даляраў (у Францыі — 22 тыс.).

Эканамічнае становішча Корсыкі абы-якое, а прамысловасьць і сельская гаспадарка знаходзяцца на ніжэйшым за эўрапейскія меркі ўзроўні. Высакаякасныя сельскагаспадарчыя прадукты ("востраў прыгажосьці" знаны сваімі вінамі, сырамі, сьвінінай, садавінай і мёдам) — вырабляюцца на дробных фэрмах, 95% прадпрыемстваў краю дробныя — налічваюць менш за 10 работнікаў, узровень жа беспрацоўя дасягае ў іншыя гады 20%. У такіх умовах многія маладыя далучаюцца або да незалежніцкага, або да крымінальнага руху.



Франчэска Сантоні

Карсыканцы, не знаходзячы працы дома, дзесяцігодзьдзямі масава зьяжджалі на чужыну, напрыклад, на службу ў французскія калёніі. На Корсыцы нарадзіўся, напрыклад, актор Бэльмандо. Менавіта карсыканцы кантралююць частку мафіёзных структураў на поўдні Францыі. Адначасова шэраг французскіх палітыкаў — карсыканцы, што зракліся сваёй карсыканскасьці, напрыклад, лідэры правіцы, былы мэр Парыжу Жан Тыбэры і былы міністар унутраных справаў Шарль Паскуа.

Выбух сэпаратысцкага руху на востраве прыйшоўся на 60-я, калі на Корсыку зьехаліся т.зв. "чарнаногія" — альжырскія каляністы, што пакінулі Афрыку пасьля дэкалянізацыі і пры дзяржаўнай падтрымцы скупілі значныя абшары на высьпе, чым раззлавалі мясцовае насельніцтва. Адмоўную рэакцыю ў традыцыйным грамадзтве выклікала і разьвіцьцё турызму, якое бурыла карсыканскую ўнікальнасьць і абражала мараль старасьвецкіх астраўлянаў.

Французскім інстытуцыям, у прыватнасьці паліцыі, цяжка працаваць на Корсыцы, дзе людзі жывуць паводле традыцыйнага права, і таму



# Сьвятая Агата,

## *пачуй нас і маліся за нас*

**Вёска Ўдзела, што на Глыбоччыне, ня згадвалася ў "НН" сярод пацярпелых ад сёлетніх ліпеньскіх навальніцаў. Наўрад ці мы б даведаліся, што пярун не абышоў і яе сваёй увагай, калі б паблізу не апынуўся фатограф Дзяніс Раманюк. Пярун, на шчасьце, ня трапіў у хату, але запаліў хлеў, не абаронены маланкаадводам. Людзі патэлефанавалі пажарнікам, а на дапамогу ім заклікалі сьвятую Агату, што, кажуць, бароніць ад агню. Згодна з спаконвечным звычаем, трэба зь ейным абразом абысьці вакол будынку, які гарыць, каб полымя не перакінулася на іншыя жытлішчы, а потым трымаць выяву сьвятой на агонь, пакуль ён ня згасьне.**

**Агонь, асабліва агонь нябесны, гіпнатычна ўзьдзейнічае на чалавека — яшчэ, відаць, з тых часоў, калі лічыўся праявай магутнага Перуна, а забраная ім маёмасьць ці жыцьцё не выклікалі шкадобы і нараканьняў...**

**Супольнымі намаганьнямі полымя перамаглі — хіба толькі страху гаспадарам давядзецца крыць нанова.**















прававая дзяржава на востраве рэальна не функцыянуе, а рэспубліканскія нормы не выконваюцца. Друк пастаянна прыводзіць прыклады злачынстваў, учыненых карсыканцамі і скіраваных супраць дзяржавы, — ад нявыплаты падаткаў да грубага ігнараваньня правілаў дарожнага руху.

Цяперашні этап узброенай барацьбы карсыканцаў за незалежнасьць пачаўся ў жніўні 1975 г. з падзеяў у Алерыі, на ўсходзе востраву. 22 жніўня ўзброеныя дзецюкі з арганізацыі Дзеяньне за Адраджэньне Корсыкі, перайменаванае ў 1976 г. у Фронт Нацыянальнага Вызваленьня Корсыкі (ФНВК), на чале з Эдмонам Сымэоні, захапілі вінаробчы каапэратыў, дзе працавалі рэпатрыянты з Альжыру, забіўшы пры гэтым трох жандараў. З часам паўсталі і іншыя нацыяналістычныя групоўкі, лік якіх, нягледзячы на ўсе спробы яднаньня, адно павялічваўся. На сёньня іх каля 36-ці. Адны зь іх супрацоўнічаюць, іншыя ваююць паміж сабой. Гэтае змаганьне ўмела падбухторваецца францускімі спэцслужбамі. Таму барацьба парою нагадвае вэндэту паміж прадстаўнікамі розных кланаў. З 1976 г., калі незалежнікі абвесьцілі вайну цэнтральнай уладзе, на высьае адбылося больш за 4000 тэрактаў.

Трэба сказаць, што карсыканскі тэрор несупастаўляльны з ірляндзкім ці баскім, бо рэдка скіраваны супраць людзей. У асноўным тэрарысты зьнішчаюць адміністрацыйныя будынкі, а яшчэ яны часта ваююць паміж сабой. Сярод ахвяраў тэрактаў вялікая доля саміх тэрарыстаў. Цікава, што Дзяржэпартамэнт ЗША, які штогод абвяшчае сьпіс тэрарыстычных арганізацыяў, ня ўносіць у гэты сьпіс карсыканцаў.

Нябожчыка Сантоні называлі апошнім вялікім нацыяналістычным правадыром 80-х. Некалі ён адседзеў шэсьць год у турме за тэрарызм і быў адным з асноўных дзеячоў незалежніцкай партыі *A Cuncolta Naziunalista*, якая выконвае ролю палітычнага прадстаўніцтва значнай часткі змагароў за свабоду. Ды вось жа ў 1993 г. Сантоні ўчыніў раскол у арганізацыі і пачаў перамовы з францускімі ўладамі.

Пагадненьне, падпісанае прадстаўнікамі карсыканскай грамадзкасьці і цэнтральным урадам у Парыжы ў 2000 г., мела пакласьці пачатак вырашэньню праблемы востраву. Узамен на частковую аўтаномію (права на прыняцьцё сваіх законаў пад кантролем францускага парлямэнту) з 2002 г., падатковыя прывілеі і права на ўсеагульную адукацыю на карсыканскай мове (блізкай да італьянскай), нацыяналісты дэкляравалі замірэньне і часовую адмову ад патрабаваньняў незалежнасьці. Пытаньне аб пашырэньні самастойнасьці было адкладзенае да 2004 г. Карсыканцы ўспрынялі дамоўленасьці як перамогу і просты шлях да незалежнасьці ў будучыні.




FLNC — Фронт Нацыянальнага Вызваленьня Корсыкі

Урад пагадзіўся й на адміністрацыйнае аб'яднаньне востраву, падзеленага раней на два дэпартамэнты. Корсыка стала адзінай часткай Францыі, што мае асаблівы статус і нейкія прыкметы аўтаноміі. Прыклад 900 тыс. карсыканцаў (большасьць іх цяпер жыве ў мэтраполіі) можа ў будучыні натхніць мільён эльзасцаў ды 1,5 мільёна брэтонцаў.

Нягледзячы на супраціў правіцы і прэзыдэнта, францускія сацыялісты здолелі дабіцца ўхвалы гэтых дамоўленасьцяў у ніжняй палаце парлямэнту. Але неспадзявана пагадненьне аказалася пад пагрозай. У ліпені карсыканцы запатрабавалі амністыі для больш як 40 асуджаных альбо вышукваных за тэрарызм. Аднак, паводле апытаньняў, 81% французаў выступаюць супраць амністыі. І ўрад абвесьціў, што пра амністыю ня можа быць гаворкі. Праўда, тое ж апытаньне паказала, што ўпершыню ў гісторыі колькасьць людзей, што падтрымліваюць адлучэньне Корсыкі ад Францыі зраўнялася з колькасьцю праціўнікаў гэтага кроку.

Сантоні ў сваёй кнізе шчодра раздаваў на адрас іншых абвінавачваньні ў мафіёзнасьці, але існавалі падазрэньні і датычна ягонае асобы. З гешэфтаў на высьпе жывуць і незалежніцкія, і прафранцускія сілы. Каму зь іх была больш патрэбная сьмерць Сантоні? Шмат хто меў падставы забіць яго, бо цягам доўгіх гадоў ён нарабіў сабе ворагаў. А на Корсыцы асабісты вораг часта значыць больш, чым нейкая палітычная матывацыя.

**Сяргей Радштэйн**

# Паўраспад "Песьняроў"

"Песьняры" былі багамі майго дзяцінства. Пры канцы 70-х наш піянэрска-акцябрацкі хор удзельнічаў ва ўсіх урадавых канцэртах, дзе выступалі слынныя беларускія артысты. У тым ліку й "Песьняры". У тыя далёкія гады я часта бачыла іх зблізу — за кулісамі, у калідорах опэрнага тэатру, ля аўтамату з "газіроўкай". Я слухала іх на рэпэтыцыях. Падрыхтоўка да ўрадавых канцэртаў (так называліся тыя пампэзныя імпрэзы, хоць было відавочна, што робяцца яны не для ўраду, а для ЦК і асабіста Машэрава) доўжылася тыднямі. Пераважна ўначы, бо ўдзень опэрны тэатар жыў сваім звычайным жыцьцём. А ноччу распачыналіся бясконцыя прагоны. Рэжысэр экспэрымэнтаваў з асьвятленьнем, тэхнікі змагаліся з апаратурай, а "Песьняры", у сваіх доўгіх ды нязручных халатах, увіхаліся на сцэне пад гарачымі промнямі пражэктараў.

"Ты мне вясною прысьні-і-лася-а-а..." — адныя толькі "Песьняры" мелі прывілей на клясычныя беларускія вершы сярод надакучлівага камуністычнага афіцыёзу ўрадавага канцэрту. Яны сьпявалі пра каханьне, песьцячы вуснамі кожнае беларускае слова. Яны сьпявалі пра любоў да роднае зямлі, а іхныя твары празаічна сплывалі потам. "Песьняры" паводзіліся падчас дзяжурных прагонаў зусім ня так, як іншыя артысты. Іншыя, пакуль рэжысер ганяў асьвятляльнікаў, працавалі ў чвэрць сілы, крэсьлячы толькі контуры свайго выступу. "Песьняры" не дазвалялі сабе ні на хвіліну расслабіцца. Яны ўвесь час шукалі новых фарбаў, новых выразных падрабязнасьцяў, дапасоўваючы сваё выкананьне да канкрэтных умоваў акустыкі, да настрою, надвор'я. Акурат падчас гэткіх рэпэтыцыяў я ўпершыню пачула лучанкоўскую "Спадчыну", і сэрца мо першы раз у жыцьці зашчымела ад пранізьлівай салодкай любасьці.

Цяперака тых "Песьняроў" ужо няма. Ёсьць "Беларускія песьняры" — высокапрафэсійны камэрцыйны гурт з адчувальным прысмакам акадэмізму. Ёсьць таксама "Песьняры" Ўладзімера Мулявіна, якія мо й саступаюць "Беларускім песьнярам" у прафэсійнасьці, але маюць кіраўніком народнага артыста СССР. Два калектывы вядуць барацьбу за выжываньне і ўжо тры гады змагаюцца за руку і сэрца цяперашняе беларускае ўлады.


Уладзімер Мулявін

IREX-PROMEDIA

Своеасаблівай кульмінацыяй гэтай барацьбы сталіся падзеі сёлетняга "Славянскага базару". "Песьняры" Мулявіна выступілі ў галя-канцэрце майстроў мастацтваў Беларусі, а "Беларускія песьняры" — у расейскім. Яны выратавалі безнадзейна слабое расейскае шоў, дзе галоўнай прынадай для публікі быў псэўда-опэрны тэнар Мікалай Баскаў. Акрамя таго, іх запрасілі выступіць у начной імпрэзе ў гонар 10-й гадавіны віцебскага фэсту.

У галовах слухачоў паўстала трывожнае пытаньне: якім чынам "Беларускія песьняры" трапілі ў "расейскі дзень"? Хіба гэта сталася пад націскам Мулявіна? Альбо "Беларускія песьняры" ўжо канчаткова атабарыліся ў Масковіі?

На шчасьце, нічога гэткага пакуль ня здарылася. У калідорах "Белканцэрту" па-ранейшаму можна адшукаць дзьверы зь беларуска-песьняроўскаю шыльдаю. Ахвоча адгукаюцца тэлефоны — службовыя і хатнія. Дырэктара "Беларускіх песьняроў" заслужанага артыста Беларусі Ўладзіслава Місевіча я засьпела на лецішчы, збудаваным літаральна за два крокі ад Менску. Зьяжджаць у Расею ён не зьбіраецца — хіба на гастролі. І нават дэманструе нейкую бачнасьць беларускага патрыятызму, хоць размаўляе выключна па-расейску.

Зрэшты, нашая гутарка са сп.Місевічам пакінула па сабе больш пытаньняў, чым адказаў. У якасьці ўнівэрсальнага тлумачэньня мой суразмоўца загадкава спасылаўся на "пэўныя цяжкасьці", якія ствараюць "Беларускім песьнярам" высокія дзяржаўныя чыноўнікі.

У гэтых спасылках ёсьць доля праўды. "Беларускія песьняры" трапілі ў расейскі галя-канцэрт "Славянскага базару", бо ў беларускі іх не запрасілі. Аргкамітэт "Славянскага базару ў Віцебску" ўзначальвае намесьнік старшыні Адміністрацыі прэзыдэнта Ўладзімер Замяталін. А значыцца, "Беларускім песьнярам" адмовілі зь ягонае згоды (альбо нават паводле ягонага загаду). Але, запрашаючы "Беларускіх песьняроў" у свой канцэрт, і расейскія мэнэджэры напэўна ўзгаднілі гэты крок з Замяталіным.


"Беларускія песьняры"

Адсюль можна зрабіць некалькі высноваў. Па-першае, беларускія ўлады стаяць хутчэй на баку мулявінскіх "Песьняроў", але канфлікт ня мае ідэалягічнага падтэксту. Па-другое, удзел "Беларускіх песьняроў" выгадны Замяталіну. Стратэгія апошняга заключаецца ў тым, каб усё беларускае прадстаўлялася таксама і расейскім, а ўсё расейскае выдавалася за нечужое беларусам. Ваш Пушкін — і наш Пушкін. А нашы "Песьняры" не такія ўжо і ня вашы.

У самым пачатку кіраваньня Лукашэнкі Мулявін дабіўся асабістай сустрэчы з прэзыдэнтам. Той падпісаў дырэктыву, каб Дзяржаўны ансамбль "Песьняры" быў забясьпечаны ўсім неабходным. Аднак чыноўнікі не сьпяшаліся ўладкоўваць творчы побыт песьняроўцаў.

У верасьні 97-га ў "Песьняроў" сапсаваўся апошні студыйны магнітафон. Мулявін ня ведаў іншага спосабу даць рады гэтай бядзе, акрамя як напісаць рэзкі ліст у Мінкульт. Ён пагражаў, што песьняроўцы спыняць працу, пакуль не атрымаюць абяцанага. У гэткіх умовах творчыя пытаньні адсоўваліся на другі плян. Трэ было ратаваць ансамбль.

І тутака чыноўнікі зрабілі ход канём. У студзені 98-га рашэньнем міністэрства Мулявін быў зьняты з пасады дырэктара "Песьняроў", але захаваў за сабой пасаду мастацкага кіраўніка. Новым дырэктарам зрабіўся Ўладзіслаў Місевіч, які за 6 год прадпрымальніцкай дзейнасьці назапасіў немалы досьвед у небясьпечным постсавецкім бізнэсе. У адным з сваіх інтэрвію Місевіч з гонарам распавядаў, як прадаў у Данбас 4,5 тысячы тонаў бульбы, як прывозіў у Беларусь таматы з Малдовы...

Здавалася б, Місевіч найлепшым чынам надаваўся на ролю мэнэджэра. Тым больш, што ён сьвядома ішоў "*ратаваць калектыў*". Аднак Мулявін убачыў у ім толькі "*новага гаспадара, зручнага для Мінкульту*". Мастацкі кіраўнік "Песьняроў" акопваўся для доўгай барацьбы зь бюракратамі. На ягоную думку, ён зрабіўся "*косткай у горле вельмі ўплывовых чыноўнікаў зь Мінкультуры*". Мулявін дагэтуль сьцьвярджае, што гэтыя чыноўнікі, насуперак прэзыдэнцкім дырэктывам, нічога не рабілі для падтрымкі "Песьняроў". Ён іх увесь час выкрываў ды пагражаў расплатай за валакіту.

Мулявін ні ў адным інтэрвію не называе іменаў тых, з-за каго калектыў апынуўся ў катастрафічным становішчы. Але ясна, што вінаватага ў распадзе калектыву нацыянальнага значэньня трэба шукаць на самым версе. У гады распаду "Песьняроў" традыцыйныя функцыі "сакратара ЦК па ідэалёгіі" выконваў Замяталін. І які ж гэта быў кантраст зь дзейнасьцю ягонага доўгачасовага папярэдніка эпохі "разьвітога сацыялізму" Кузьміна! Таленавітыя творцы лічылі за гонар выпіць з Кузьміным каньячку ды пагутарыць пра жыцьцё. Тыя, хто здолеў яму спадабацца, рабілі фантастычныя кар'еры, папярэдне расчысьціўшы шлях ад магчымых супернікаў.

Замяталін кантактуе з інтэлігенцыяй у іншым стылі. Ён папросту запрашае людзей да сябе ў кабінэт і абвяшчае ім іхны лёс. Аднойчы ён гэтак запрасіў Мулявіна й Місевіча ды заявіў ім, што апошні звольнены з дырэктарскай пасады. Частка артыстаў — нібыта ў знак салідарнасьці — таксама сышла зь "Песьняроў" сьледам за Місевічам.

Гэтым падзеям папярэднічалі дзіўныя рэчы. Спачатку Мулявін зь вялізным зьдзіўленьнем дазнаўся, што Місевіч цалкам самастойна набраў у ансамбль новых людзей, нават не параіўшыся зь ім. Новы склад "Песьняроў" — без Мулявіна — выступаў збольшага на закрытых канцэртах (прыкладам, у КДБ), а таксама ў маскоўскіх клюбах. Нарэшце, "Песьняры" без Мулявіна выступілі па тэлебачаньні ў праграме "Музычны рынг". Мулявін быў у шоку. Найперш таму, што "Песьняры" прайгралі. 30 год ён быў першым!

Ён усё яшчэ лічыў, што ансамбль Місевіча — арганічная частка "Песьняроў". І пачаў скардзіцца ўладам на свайго дырэктара. Урэшце састарэлага і хворага Мулявіна прыбіраюць з пасады. Тады Мулявін ізноў ідзе на прыём да прэзыдэнта, Лукашэнка аднаўляе яго на пасадзе дырэктара і дае 150 тысяч даляраў на закупку апаратуры. Але гэта адбылося ўжо пасьля канчатковага афармленьня расколу "Песьняроў"...

"Беларускія песьняры" пасьпяхова прайшлі рэгістрацыю ды зьвілі сабе новае гняздо пад прыветным дахам "Белканцэрту". Здавалася б, навошта беларускія ўлады дазваляюць рэгістраваць назоў, які напэўна справакуе скандалы?

Два гурты з аднолькавым назовам ды аднолькавымі прэтэнзіямі на слаўную песьняроўскую спадчыну ня могуць існаваць у адной культурнай прасторы Беларусі. Адзін зь іх натуральна выціснуўся ў Расею і гатовы выканаць любую сацыяльную замову ўладаў. У фінале расейскага галя-канцэрту "Беларускія песьняры" засьпявалі песьню яраслаўскага аўтара Юр'я Палякова "Россия — Беларусь". Сп.Місевіч старанна мяне запэў-

## ПЕРАДГІСТОРЫЯ

**Росквіт "Песьняроў" супаў у часе з эпохай Машэрава. "Лявоны" распачыналіся ў 68-м. У 69-м яны прыдбалі назоў "Песьняры". У кастрычніку 70-га Ўладзімер і Валеры Мулявіны, Лявон Тышко, Уладзіслаў Місевіч, Валер Яшкін, Аляксандар Дзямешка і Лявон Барткевіч з трыюмфам выступілі на Пятым Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады ў Маскве. Яны засьпявалі "Скрыпяць мае лапці, як іду да цябе" і яшчэ колькі народных песень. Гэта была сэнсацыя! Самабытныя апрацоўкі, сьвежае гучаньне. Амбітны Пётра Машэраў заўважыў іхны посьпех, які мог стацца выдатнай рэклямай для Беларусі. "Песьнярам" стварылі ўсе ўмовы для плённае творчасьці, забясьпечылі іх інструмэнтамі і апаратурай, пра якую масквічы маглі толькі марыць... Машэраў дбаў аб прэстыжы.**

**У 1980 г. "Песьняры" апошні раз атрымалі ад савецкай дзяржавы новую апаратуру. У гэты ж год загінуў Машэраў. А зь сярэдзіны 80-х "Песьняры" пачалі губляць папулярнасьць. У эпоху свайго росквіту яны жылі нібыта падвойным жыцьцём. Пераважная большасьць слухачоў, асабліва расейскіх, ведалі іх як выканаўцаў "Вологды", "Березового сока" і "Белоруссии". Свае "сапраўдныя" праграмы песьняроўцы захоўвалі для менчукоў і для снабісцкай маскоўскай публікі, якая не разумела тэкстаў, але затое адшуквала ў песьнях алюзіі з Шастаковіча, Стравінскага ды Шнітке. Дарэчы, Шнітке з Шастаковічам высока ацэньвалі творчасьць "Песьняроў". У вачох знаўцаў Мулявін быў геніем, прарокам новага стылю.**

**Калі "Вологда" надакучыла, Мулявін распачаў свае пошукі ў галіне**



**песенных опэраў ды араторыяў, якія ў асяродках спэцыялістаў лічыліся шэдэўрамі, аднак з-за складанасьці ня дужа падабаліся звычайным слухачам... Да таго ж, краіну апаноўваў бунт. Моладзь ненавідзела ўсё "саўковае" – Ратару, Кабзона і, натуральна, "Вологду" зь "Белоруссией".**

**У гэткім настроі "Песьняры" ўваходзілі ў рынак. Здавалася б, ва ўмовах маладой незалежнасьці яны мусілі адрадзіцца і расквітнець, аднак здарылася наадварот. Дзяржаўныя чыноўнікі былі занятыя іншымі праблемамі, а самастойна змагацца зь цяжкасьцямі "Песьняры" ня ўмелі. Увесь досьвед савецкага жыцьця навучыў іх спадзявацца на чыноўнікаў, скардзіцца чыноўнікам, шукаць ад іх падтрымкі ды дапамогі. На гэтым шляху заўжды квітнелі інтрыгі, але ў савецкіх умовах артыст, які хацеў быць папулярным ды есьці хлеб з маслам, ня меў выбару.**

**На пачатку 90-х ад "Песьняроў" мала што засталося. Распад першага складу ансамблю пачаўся яшчэ ў 1983 г. Тады з ансамблю пайшлі Актай Айвазаў, Яўген Поздышаў і Анатоль Шчогалеў. Потым Лявон Барткевіч ажаніўся з Вольгай Корбут, і тая — калі верыць расповедам сп.Місевіча — намовіла яго распачаць самастойную сьпявацкую кар'еру. Барткевіч заснаваў гурт "Мальвы", а пасьля разам з жонкай эміграваў у Амэрыку. Разьвёўшыся з Корбут, ён вярнуўся ў Беларусь і навязаў кантакты зь "Песьнярамі" Мулявіна. Нават засьпяваў у канцэрце ў гонар 30-х угодкаў "Песьняроў". Аднак тым разам славутыя "кацінныя" інтанацыі Барткевіча насьмяшылі публіку. Эпоха непапраўна зьмянілася...**

**Пасьля Барткевіча з гурту сышоў Лявон Тышко ды зьехаў у Ізраіль. (Пазьней і ён спрабаваў скантактавацца з мулявінскімі "Песьнярамі" і нават завітаў у Менск, але кантакту не атрымалася.) Потым надышла чарга Анатоля Кашапарава, які таксама апынуўся ў Амэрыцы, адчыніў піцэрыю і зусім забыўся на музыку. А вось былы песьняровец Растапшын стаўся ў Амэрыцы папулярным блюзавым гітарыстам, грае з сусьветнымі славутасьцямі. Апошнімі ансамбль пакінулі Ўладзіслаў Місевіч і Валер Дайнэка. Місевіч пайшоў на пэнсію ды заняўся прадпрымальніцтвам. Дайнэка ўладкаваўся на працу ў Дзяржаўны канцэртны аркестар пад кіраўніцтвам Фінберга... На іхныя месцы прыйшлі новыя хлопцы, якія ўпарта верылі ў легенду "Песьняроў".**

**Аднак "Песьняры" катастрафічна бяднелі. Іхная база месьцілася ў двух пакоях школы-інтэрнату для глуханямых дзяцей. Апаратура ды інструмэнты, калісьці найлепшыя ў краіне, безнадзейна састарэлі. "Песьняроў" мала куды запрашалі. Артыстам цяжка было вытрымаць гэткае становішча...**

# Уладзіслаў Місевіч: «У нас тут куча дзяцей»



**"НН": Чаму падчас апошняга "Славянскага базару" вы выступалі ў расейскі дзень?**

**Уладзіслаў Місевіч:** У Расеі мы працуем стала, бо ў Беларусі сутыкаемся з пэўнымі цяжкасьцямі, якія нам ствараюць Замяталін і сёньняшні міністар культуры. Нас нікуды не запрашаюць, робяць выгляд, нібы нас увогуле няма. Хоць мы гаспадарча-разьліковая адзінка "Белканцэрту". Зрэшты, нас гэта задавальняе, асабліва зараз: мы не жадаем агітаваць за кагосьці альбо супраць кагосьці. А з "Славянскага базару" зрабілі палітычнае мерапрыемства.

У канцэрце мы засьпявалі тры песьні. Песьню "Россия — Беларусь" мы прапанавалі самі. У Беларусі гэтая песьня — прадмет дыскусіі. У Расеі яна вельмі папулярная, амаль гімн. Увогуле ж, за апошнія тры гады ў нас са "Славянскім базарам" было зьвязана некалькі непрыемных эпізодаў. Нас альбо зусім не запрашалі, альбо скасоўвалі запрашэньне літаральна напярэдадні.

**"НН": І чым гэта тлумачылася?**

**У.М.:** Пакуль ёсьць Замяталін, нас нікуды не запросяць... Міністар — гэта бязвольная фігура, якой ён кіруе. А вось расейцы нас запрасілі. Менавіта з гэтай прычыны ў нас у рэпэртуары зьявілася песьня на тэму сяброўства двух народаў. Тэма для нас жывая. Нас падпітвае Расея. У Беларусі людзі ня маюць лішніх грошай на квіткі. Дый за 30 год мы пасьпелі ўсю яе аб'езьдзіць. Мы хочам, каб людзі ад нас адпачылі. Час ад часу выяжджаем у раённыя і абласныя цэнтры — дзе ёсьць умовы для выступленьняў. Аднак, гэтыя ўмовы непараўнальныя з тымі, якія ствараюць нам у Расеі. Маю на ўвазе як сцэнічную пляцоўку, так і побыт — гатэль, харчаваньне. Расея — багаты і патрабавальны рынак. Мы працуем якасна і паступова вяртаемся на ўзровень, які "Песьняры" ледзь не згубілі.

Акрамя таго, нашае тэлебачаньне не вытрымлівае ніякай крытыкі. Каб цябе ўбачылі беларусы, трэба ехаць у Маскву, а на гэта патрэбныя вялікія грошы. Спонсараў у Беларусі з часоў Кебіча ў нас няма. Мы за ўсё плацім з сваёй кішэні. "Белканцэрт" дае нам толькі офіс і тэлефоны.

**"НН": Чаму Замяталін вас ня любіць?**

**У.М.:** Для мяне гэта загадка. З Мулявіным ён мае сталы галаўны боль — выпіхваць на сцэну і вымушаць сьпяваць. Замяталін шмат губляе, калі найважнейшыя канцэрты выконваюцца п'янымі альбо непрафэсійнымі людзьмі.

У нас увогуле няма аніякіх крыўдаў. Адно крыўднавата, што мы ня трапілі ў Беларускі дзень на "Славянскім базары". За 30 з гакам гадоў працы мы заслужылі, каб выступіць на галоўным беларускім фэстывалі ў Беларускі дзень.

Калі хтосьці з нашых музыкаў купляе дом альбо кватэру ў Расеі, у гэтым няма нічога экстраардынарнага. Мы былі і застаемся беларускімі грамадзянамі. У нас тут куча дзяцей ад першых і другіх жонак, і ўсіх іх трэба карміць і апранаць. Тут наша радзіма.

**Гутарыла Ю.А.**

**УЛАДЗІСЛАЎ МІСЕВІЧ — саксафаніст, флейтыст і вакаліст, заслужаны артыст Беларусі, дырэктар ансамблю "Беларускія песьняры". У 1968 г., пасьля дэмабілізацыі з войска, разам зь сябрамі Ўладзімерам Мулявіным, Лявонам Тышком і Валер'ем Яшкіным стварыў гурт "Лявоны", які выконваў беларускія народныя песьні і гіты "Бітлз" у перакладзе на беларускую мову. У верасьні 69-га зь "Лявонаў" паўстаў гурт "Песьняры". У 1992 г. Місевіч сышоў зь "Песьняроў" на пэнсію ды заняўся прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Заснаваў прыватны фонд уласнага імя, зь якога выплочваў стыпэндыі таленавітым дзецям і фінансаваў стратныя філярманічныя мерапрыемствы (прыкладам, фэстываль "Блюз жыве ў Менску"). У 1997 г. з ініцыятывы Міністэрства культуры вярнуўся ў "Песьняры" на пасаду дырэктара. Пасьля распаду "Песьняроў" стварыў ды ўзначаліў новы калектыў — "Беларускія песьняры"**



...ніваў, што яны самі прапанавалі гэтую песьню ў праграму канцэрту, што тэма інтэграцыі вельмі ім блізкая. Але мне чамусьці ня верылася.

Ва ўмовах жорсткага суперніцтва былыя паплечнікі выліваюць адзін на аднаго цэбры памыяў. Тры гады супрацьстаяньня пашкодзілі рэпутацыі абодвух бакоў. Легенда "Песьняроў" не застаецца дзесьці ў далёкай мінуўшчыне, яна раскладаецца ў нас на вачах. "Песьняры" згубілі сваю сілу, маральны аўтарытэт, здольнасьць выклікаць моцныя — найперш патрыятычныя — пачуцьці. Страта маральнага аўтарытэту — сьмерць для любога песьняра.

Вось і вандруюць па расейскіх канцэртных залах другога эшалёну два беларускія гурты, якія — сьвядома ці несьвядома — прапагандуюць ідэю "інтэграцыі". Выступленьні "Песьняроў" абуджаюць у расейцаў сэнтымэнтальныя ўспаміны пра часы, калі Беларусь была "нашай", "савецкай". У гэтым упэўніваешся, калі наведваеш песьняроўскі Інтэрнэт-форум www.lovehate.ru/opinions.cgi/3366/1.

Нашыя артысты былі лепшымі, і яны дагэтуль нясуць у сваім мастацтве тую арыстакратычную высакароднасьць, якой арганічна не стае сёньняшняй расейскай эстрадзе. І слухачы гэта адчуваюць! А вось у Беларусі галасы "Песьняроў" амаль не гучаць. Усе канцэртныя пляцоўкі скрозь распрададзеныя пад выступы расейскіх "зорак", узровень якіх найчасьцей непараўнальна ніжэйшы за песьняроўскі. Расейскія сьпевакі зарабляюць у Беларусі шалёныя грошы, а нашыя гурты ахвотней выступаюць у Расеі, апраўдваючыся беспрасьветнай галечай беларускай публікі. Прыеліся ў сябе дома? Не прыеліся б, калі б ня страцілі маральнага аўтарытэту, павагі да сябе. Як не прыядаюцца Быкаў ці NRM.

А чыноўнікам нават спакайней, калі песьняры адпраўляюцца на паслугі да суседзяў, бо песьні заўжды кудысьці заклікаюць. І часам — на барыкады.

**Юлія Андрэева**





**БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ**

# Паветраныя гарады

У 2101 г. Беларусь — адна з найбольш тэхналягічна разьвітых краінаў сьвету. Вучоныя Інстытуту парашковай мэталюргіі стварылі сплаў, нашмат лягчэйшы за паветра, зь якога ў 2092 г. пабудавалі першыя паветраныя гарады з насельніцтвам да 50 тысяч жыхароў. Збольшага ў Месьце Скарынiным ды Радзівілаўскім Пляцы (паветраных гарадах над Беларусяй) будуць месьціцца навучальныя ўстановы, у якіх кожны крывіч у веку ад 5 да 150 гадоў будзе павінен раз у 5 гадоў прайсьці спэцыяльную адукацыйную праграму, каб не адставаць ад жыцьця. Працягласьць навучаньня (ад 2 тыдняў да 2 гадоў) будуць разьлічваць асабіста кожнаму чалавеку, у залежнасьці ад інтэлектуальных здольнасьцяў. Абавязковымі прадметамі застануцца толькі інфармацыйныя тэхналёгіі ды літаратура, якой будзе надавацца вялікая ўвага, бо яна — "гэта мы самі", як прамовіў неяк Вялікі Канцлер Новай Крывіі Альгерд.

Найбольш папулярнымі ў 2101 г. будуць пісьменьнікі XX ст., бо менавіта яны далі штуршок да зьяўленьня Новай Крывіі. Сукупныя электронныя наклады кніг Жылкі й Караткевіча, Багдановіча ды Генюш будуць вымярацца мільёнамі гігабайтаў.

Крывія ў 2101 г. — гэта краіна жыцьця. Ніводная краіна Эўропы ня можа зьдзівіць гэткай чысьцінёй паветра, глебы, чалавечых зносінаў.

У 2101 г. людзі будуць хадзіць у храмы, цэрквы, сынагогі, касьцёлы толькі для таго, каб паглядзець на творы мастацтва, якія засталіся ім ад іх дзядоў ды прадзедаў. Маліцца ж усе будуць сам-насам. Маліцца Богу як сутнасьці чалавечага існаваньня, разумеючы праўду гэтай сьвятой зямлі.

У стагодзьдзе Нацыяў кожны крывіч будзе верыць...

**Ігар Навумчык**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**



## Наша Ніва 90 гадоў таму

**Двор Малыя Бяседы, Віленск. губ.** Цікава часам у некаторых нашых дварах вядзецца гаспадарка. Узяць хоць бы тутэйшы бяседзкі двор. Яшчэ колькі часу таму назад кіпела ў ім і каля яго жыцьцё, а сягоньня пусткай адусюль і гнільлём пачынае веяць. Была фабрыка шкла — гута, каторая давала колькі сотням людзей заработак — пры фабрыцы і ў лесе каля дроў, пры дастаўцы шкла да чыгункі і г.д. — цяпер толькі знак той, дзе гута стаяла. Была смалярня — спылала і смалярня... У самім двары таксама ня лепей. Жыта перастали сеяць зусім. Дворная адміністрацыя, відаць, выбіўшыся з работы, ходзіць па лесе і адбірае ў вясковых кабет ягады, прыгаворваючы: "Наша праца, а бабскія сьлёзы". Усе гэта паказывае далёка не такую культуру, аб якой нашы паны любяць гаварыць кожнаму. Але наш тутэйшы пан яшчэ ў лепшую заходзіць культурнасьць. Астаўшымся ў яго двум арандатарам забараніў выпісваць і чытаць "Нашу Ніву". Ведаў-ткі Бог, што ня даў нашаму пану шырэйшай уласьці, як толькі над сваімі арандатарамі...

**11 жніўня 1911 г., №№ 31—32**

# Выбары ў беларускім

**Чалавек, у якога дома альбо на працы стаіць кампутар з мадэмам, можа сачыць за выбарчай кампаніяй, гойдаючыся на задніх ножках крэсла й папіваючы каву. Варта толькі набраць у адпаведным акенцы некалькі лацінскіх літар і націснуць кнопку "ўваход". Перад вамі адкрыецца старонка таго ці іншага кандыдата або агенцтва, што сочыць за выбарамі й зьбірае ўсе навіны й зьвесткі. Вы можаце зайсьці ў дыскусійны клюб і пагаварыць зь вядомым палітыкам ці экспэртам, а потым абмеркаваць яго словы зь іншымі наведнікамі сайту.**

**Штодзень на прагледжаных мною сайтах зьяўляюцца дзясяткі розных матэрыялаў — навіны, апытаньні, статыстыка, аналітычныя артыкулы, канфэрэнцыі *on-line*. У рэальным жыцьці пра выбары сьведчаць толькі налепкі й нязграбныя белыя тумбы, пастаўленыя ў прыдатных для гэтага месцах. Выглядае, што Беларусь віртуальная больш зацікаўленая выбарамі, чым Беларусь рэальная. Напэўна, карыстальнікамі Інтэрнэту зьяўляюцца 3% самых актыўных людзей у нашай краіне.**

## Сайты кандыдатаў

Сяргей Гайдукевіч заявіў "НН", што ня мае свайго сайту, бо няма ў тым патрэбы. Але пры гэтым ён сказаў, што "я літаральна жыву ў Інтэрнэце, праводжу там шмат часу, бываю ва ўсіх форумах, што тычацца палітыкі. Мае артыкулы, перадвыбарчую праграму, пазыцыю, біяграфію, здымкі вы можаце знайсьці на сайце "БДГ", БелаПАНу, vybary.net".

Сярод наведнікаў форуму www.vybary.net пабытуе думка, што сп.Гайдукевіч усё ж мае свой сайт — www.dereh.com, адміністратарам якога зьяўляецца Анатоль Герасімаў. Аднак сп.Гайдукевіч запэўніў "НН", што ня ведае такога сайту й такога чалавека.

### WWW.DEREH.COM

Гэты сайт мае слоган "Думай, а то прайграеш!"

Мова — расейская. Калёры — чырвоны, белы й сіні. Сайт мае густоўны дызайн і хутка працуе. Бачны прафэсіяналізм распрацоўшчыкаў. Колькасьць наведнікаў паназначаная больш за 113 тыс. — яўна завышаная. Бібліятэка публікацыяў пра беларускую сучаснасьць зь беларускай і замежнай прэсы. Кожны артыкул можна абмеркаваць, варта толькі клікнуць мышкаю й набраць пару словаў у бланку ліста. Падаюцца вынікі апытаньняў НІСЭПД.

Кідаецца ў вочы, што на стартавай старонцы выява "Пагоні" зьмешчаная паміж двума стылізаванымі расейскімі трыкалёрамі. Да нядаўняга часу побач красаваўся надпіс "Живе Беларусь!". Ніхто з наведнікаў не зьвяртаў увагі, пакуль не зьявіўся ультранацыяналіст пад *login*'ам "Вялікаліта", які папрасіў сп.Герасімава паправіць недарэчнасьць. Форум жывы й актыўны, чаму спрыяе ненавязьлівая прысутнасьць мадэратара, які стымулюе абмеркаваньне тае ці іншае тэмы. У гэтым форуме дапускаюцца аб'явы "купля/продаж", "шукаю працу", што таксама сьведчыць пра папулярнасьць форуму. Мат з форуму выдаляецца. Асноўная тэма форуму (як і ўсяго сайту) — крытыка апазыцыі й адзінага кандыдата: сьцьвярджаецца, між іншым, што Захаранка быў зладзюга й рэкецір, Лябедзьку зь Вячоркам кормяць жыды, якія пераехалі на Захад, АГП наладзіла бізнэс на ўцекачох. Лаюць Лявонава, Ганчарыка й Домаша як камуністаў, што лезуць ва ўладу з мэтаю ўзяць рэванш. Ёсьць брыдкі артыкул пра Чыгіра, стылізаваны пад астралягічны прагноз. Пра Лукашэнку кепскае падаецца асьцярожна й са схаванай кампліментарнасьцю, напрыклад, публікацыя "Бабнік са Шклова" апісвае яго ныя амурныя прыгоды. Сайт стварае ўражаньне, што Лукашэнка някепскі ў прынцыпе, але ягоны час сышоў; што апазыцыя — слабая й прадажная; што старая намэнклятура спалася з новай апазыцыяй і рвецца да ўлады... Лексыка й тон наведнікаў форуму адпаведныя: шмат абразаў апанэнтаў (кшталту "эліта, блін, срань господня"). Адзін з наведнікаў форуму выкладае канспэкт інтэрвію Гайдукевіча, якое той даў днямі Юр'ю Пацёмкіну зь БелаПАНу. Сярод наведнікаў заўважаны Алег Батурын з патрыятычнымі воклічамі.

### WWW.GONCHARIK.ORG

Афіцыйны сайт Уладзімера Ганчарыка. Стартавая старонка — расейскамоўная. Ёсьць ангельскі й беларускі варыянты. Распрацоўшчыкам сайту зьяўляецца сын Валянціны Палевіковай Сяргей, які цяпер вучыцца ў Х'юстане (Тэхас). Афармленьне стартавай старонкі: выява менскага краявіду і ўдалы здымак Ганчарыка, які закінуў пінжак за плячо і ўсьміхаецца. Бялюткая кашуля, разумны твар, размыты краявід за плячыма. Здымак немаладога, але энэргічнага чалавека, з трошачкі партыйнаю рэспэктаю.

У рубрыцы "Пытаньні й адказы" кандыдат паўстае як вельмі памяркоўны чалавек: прапіска справа кепская, але на пэўны час патрэбная; пазыцыя ФПБ не заўсёды была слушнаю з аб'ектыўных прычынаў; веру ў перамогу, але й у выпадку няўдачы не складу рук; чытаць трэба ўсялякую прэсу, і дзяржаўную, і недзяржаўную, а праўды шукаць самому. У рубрыцы "Пазыцыя" кандыдат выказвае свае погляды на эканоміку, нутраную й замежную палітыку, "сацыялку" й маладзёвыя праблемы. З "Пазыцыі" Ганчарык паўстае як "прэзыдэнт пераходнага тыпу". На жаль, не артыкуляваныя погляды на разьвіцьцё культуры. Цалкам праграму кандыдата абяцаюць "панесьць" неўзабаве. У рубрыцы "Прэзыдэнцкая рада" — партрэты Домаша й Казлоўскага. Рубрыка "Радавод" падае зьвесткі пра сям'ю кандыдата й ягоны "мэнтальны партрэт": "У.Г. — адзін зь нешматлікіх беларускіх лідэраў, якія належаць да легендарнага пакаленьня "шэсьцьдзясятнікаў". Пакаленьня, для якога малако маці было прыпраўленае дымам другой сусьветнай, маладосьць — авеяная свабодай "хрушчоўскай адлігі", а сталыя гады — упадкам "жалезнай заслоны" й дэмакратызацыяй грамадзтва". Біяграфія й радавод пададзеныя вельмі падрабязна. Ёсьць падборка сьвежых палітычных показак.

Домаш і Ганчарык на сваіх сайтах цёпла ды многа пішуць пра свае сем'і. Ганчарык яшчэ й шмат цытуе сваіх родных. Паведамляецца, што "Ганчарыкі — спрадвечна беларуская сям'я зь Меншчыны. Усе прадстаўнікі старэйшага пакаленьня любілі зямлю й умелі на ёй працаваць". Маці Ў.Ганчарыка спн.Ніна, Ганчарык (з дому Сінюковіч) жыве ў родным Аўгустове, пераяжджаць у Менск не зьбіраецца, бо любіць свой дом. Ва Ўладзімера Ганчарыка дзьве сястры й брат. Усе людзі паважныя, з адукацыяй. Малодшая сястра ўзгадвае:

*"І вось мы трое, дзеці настаўнікаў, падзець нас няма куды — бацькі на працы, і мы былі цэлымі днямі ў школе. У нас былі такія жалезныя пляцачкі, у іх пакладуць "зсабойку", і мы дзе-небудзь на ўроку ціхенька сядзім"*. Галоўнымі якасьцямі, якія прывялі Ўладзімера да посьпеху, сястра лічыць упартасьць, рашучасьць і стрыманасьць — у гэтым ён падобны да маці.

Сайт мае ажыўлены, гаваркі форум; у рубрыцы "пытаньне–адказ" людзі пытаюцца пра свабоду прадпрымальніцтва, саюз з Расеяй, "вычэчку мазгоў", мэдычную й адукацыйную рэформы, мабільную ды пэйджынгавую манаполіі, што існуюць у Беларусі. Адны выказваюць Ганчарыку падтрымку, іншыя лаюць за тое, што ён не саступіў Домашу.

На сайце я не спаткала ніводнага хама. Ці то цэнзура дзейнічае, ці то хамы на goncharik.org ня ходзяць. Прэс-сакратар ФПБ Зьміцер Верашчагін сайтам задаволены й лічыць, што і дызайн, і зьмест адпавядаюць найвышэйшаму стандарту.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### WWW.DOMASH.BY

Сайт Домаша. Стартавая старонка — беларускамоўная (наркамаўка). Ёсьць ангельскі й расейскі варыянты. Сіні фон, лёзунг "Шчасьця й дабрабыту народу Беларусі", стылізаваны пад рукапісны. Стылёвыя здымкі. Партрэт на галоўнай старонцы рэпрэзэнтуе Домаша як рэспэктабэльнага й сур'ёзнага чалавека. Шэры гарнітур, разумныя вочы за шкельцамі добрых акуляраў, акуратная пастава.

Сайт дыхтоўны, пазбаўлены вульгарнасьці. Форум не працуе (шкада!). Хацелася б ацаніць і публіку Домаша.

У разьдзеле "Пра Домаша гавораць" выказваюцца Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Віктар Скарабагатаў, Алег Трусаў, Мікола Статкевіч, Андрэй Клімаў, Васіль Шлындзікаў, Андрэй Санькікаў. Рубрыка "Сацыялёгія" падае вынікі разматіх сацыялягічных апытаньняў. На *Vox Populi* можна паставіць на аднаго з кандыдатаў.

Аўтару вэб-дызайну Андрэю Пэйцу ды кіраўніку праекту Андрэю Кусельчуку ўдалося стварыць вельмі рацыянальны сайт, які не захапляе нас эмацыйна, але нясе пэўны пасыл — "Домаш — салідны прэзыдэнт, эўрапейскі прэзыдэнт", дыхтоўны, як ягоны сайт ці ягоны гарнітур.

### WWW.PRESIDENT.GOV.BY

Сайт Лукашэнкі — расейскамоўны — адзначаецца пэўнай афіцыйнасьцю й параднасьцю. Такім мог бы быць сайт Брэжнева. Ёсьць ангельская вэрсія, няма беларускай. Пададзеныя біяграфія, фотаальбом, "адказы на найбольш часта задаваныя пытаньні". Пры пераказе свае біяграфіі Лукашэнка цытуе Абрагама Лінкальна. Значна лепей, чым можна было чакаць, выкладзеная гісторыя й культура Беларусі. Згадваюцца Полацкае й Тураўскае княствы, ВКЛ, трохі меней — БНР. Сьціслa й трошкі камічна пададзеныя зьвесткі пра *"Интересы и увлечения"* прэзыдэнта. Цытую цалкам.

*А.Г.Лукашенко всегда много и охотно занимался спортом. Он уверен, что огромные психологические нагрузки, которые ложатся ежедневно на Главу государства, состояние нервного стресса можно снять активным спортом. С удовольствием сам садится за руль автомобиля, любит совершать поездки без охраны и сопровождения и посещать объекты социально-бытового назначения без предупреждения, получая информацию о состоянии дел на местах из первых уст.*

*Президент, день которого расписан по минутам, за государственными делами пытается выкроить время, чтобы подойти к книжной полке. Чтение книг — для него одно из приятнейших занятий.*

*Удовлетворение ему доставляет ознакомление с техническими новинками, последними достижениями научной мысли.*

Стыль апавесьці Марыі Прыляжаевай пра Леніна. Да той жа стылістыкі належыць здымак на галоўнай старонцы: Лукашэнка зь дзяўчынкай на руках.

Пададзеная характарыстыка нутраной і замежнай палітыкі. Горка чытаць, што *"Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусі зьяўляецца ... гарантам Канстытуцыі, правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна"*.

Сайт паведамляе, што адзін з прыярытэтаў палітыкі прэзыдэнта — высокія тэхналёгіі ў эканоміцы, цывілізаваная прыватызацыя, свабода формаў уласнасьці, рэканструкцыя буйной вытворчасьці, рэформа АПК. (У дні, калі з падачы прэзыдэнта па ўсёй краіне вядзецца канфіскацыя маёмасьці грамадзкіх арганізацыяў, гэта цяжка чытаць.) Ягонае разуменьне сувэрэнітэту й нацыянальнага адраджэньня "грунтуецца на прынцыпах дэмакратыі, правоў чалавека і этнічнага міру. Прыхільнік выключна прававых мэтадаў вырашэньня спрэчных праблемаў". Вычварная іронія.

У разьдзеле "Вядомыя людзі аб Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусі" выказваюцца Алексій II, мітрапаліт Філарэт, Аман Тулееў, Ягор Строеў, Бутрас Галі (дзякуе за вывад ракетаў), Іван Шамякін (хваліць, але просіць не душыць мовы й культуры).

У фотаальбоме (12 старонак па 4—7 здымкаў кожная) зьмешчаныя толькі здымкі з афіцыйнае хронікі. Лукашэнка зьняты з калегамі па СНД, расейскімі палітыкамі, а таксама зь Фідэлем Кастра, эмірам Катару й Францам Враніцкім, былым канцлерам ФРН. Няма ніякіх здымкаў Лукашэнкі зь сям'ёй і сябрамі.

У той жа час на сайце Пуціна ёсьць спасылка на біяграфію Людмілы Пуцінай, здымкі зь сям'ёй і сябрамі сям'і.

Аматары больш жывое чытанкі пра сп.Лукашэнку могуць зайсьці ў Карчму Старога Яэпа www.jazep.f2s.com або ў часопіс "ARCHE" arche.home.by, дзе быў апублікаваны "малы чырвона-зялёны цытатнік" Лукашэнкі.

## Агульныя сайты пра выбары

### WWW.VYBARY.NET

Распрацоўшчык і гаспадар сайту — Франак Вячорка. Мова — клясычная. Дынамічнае абнаўленьне навінаў. 15 жніўня сайт ладзіў *on-line*'авыя канфэрэнцыі з Гайдукевічам, Ганчарыкам і Домашам. Разьдзел "Кандыдаты" падае біяграфію, публікацыі, апісвае імідж і асаблівасьці характару.

Трохі чапляе "завочнае інтэрвію" з А.Лукашэнкам жорсткім "сьцёбам" з асаблівасьцяў маўленьня чалавека. А як жа яшчэ можа гаварыць пасіората зь беднай вясковай сям'і? Сьмяяцца трэба не з таго, што ён кепска гаворыць па-расейску, а з таго, што ён саромеецца свае нацыянальнасьці й мовы. Разьдзел "Іншы погляд" падае публікацыі ў замежнай прэсе аб беларускіх выбарах. Ёсьць матэрыялы актуальных апытаньняў.

Рубрыка "Суб'ектыўны камэнтар" зьмяшчае матэрыял "Здымаю капялюш, сп. намэнклятурнік", у якім аўтар піша пра эмбрыянальны стан беларускай дэмакратыі, якая здолела супрацьпаставіць дыктатару толькі абойму былых намэнклятурнікаў. Карэктна й палемічна.

### WWW.VYBIRAJ.ORG

Гэта сайт непалітычнай выбарчай кампаніі **ВЫБІРАЙ**! — псыхатэрапэўтычны, у аранжавых колерах. Нагадвае здаровую раніцу са шклянкаю апэльсынавага соку.

Лёзунгі: "Страшна, калі няма выбару" й "Усё будзе добра. Дзень прыйдзе новы". Адхланьне для тых, хто стаміўся ад брыдоты вакольнага жыцьця. Узоры 52-ха налепак і постэраў, разьлічаных на ўсе катэгорыі насельніцтва. На жаль, гэтых налепак мала бачна на вуліцах. Ці то грошай замала, ці то мастацкая

# Інтэрнэце

якасьць такая высокая, што людзі забіраюць іх сабе. З гэтых налепак і плякатаў, безумоўна, атрымаецца някепскі альбом "Непадцэнзурны плякат у Беларусі 2001 г." Сайт падае навіны аб спартовых і культурных акцыях непалітычнай кампаніі **ВЫБІРАЙ**!

## VYBORY.BDG.BY

Расейскамоўны выбарны сайт "Белорусской Деловой Газеты". Побач з надпісам Выбары-2001 разьмясьціўся нейкі стод — каменны рэзанёр з разяўленым ротам. Сайт вытрыманы ў цёмных балотных калёрах з пурпуровымі спасылкамі, аформленымі пад сылюэт Беларусі. Шчоўкаючы мышкаю па спасылках, можна прагледзець разьдзелы "вероятные кандидаты на пост президента", "аналитические материалы", "новости избирательной кампании", "статистическая информация", "социология". З сайту vybory.bdg.by можна па спасылках прасачыць лёс 20 сёлетніх прэтэндэнтаў у кандыдаты, а таксама патрапіць на іхныя сайты. Выключна моцныя камунікатыўныя здольнасьці сайту (г.зн. хуткасьць і зручнасьць працы форуму і разьдзелу пытаньне-адказ, зваротнай сувязі з адміністратарам).

## WWW.REC.GOV.BY

Сайт Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах і правядзеньні рэфэрэндумаў сьціплы й афіцыйны. Выключна расейскамоўны. Фон — шэра-белы. Зьлева — герб, справа — сьцяг. Разьдзелы "выбары", "архіў выбараў", "нарматыўная база", "склад камісіі", "форум". Сайт хутка працуе. Форум актыўны. Наведнікі ў асноўным крытыкуюць выбарчае заканадаўства, першага прэзыдэнта, а таксама абмяркоўваюць... моўнае пытаньне. Нехта выказаўся па-беларуску, яго папрасілі "говоріть на обшчепрінятом языке", і пайшло-паехала. Беларускамоўныя людзі карэктныя й упартыя, расейскамоўныя выяўляюць снабізм. Выглядае на тое, што форум не цэнзуруецца, і гэта мілая неспадзяванка.

Распрацоўвала сайт служба internetservis.minsk.by.

## WWW.ELECTION.BELAPAN.COM

Адмысловы сайт інфармацыйнай агенцыі БелаПАН у трох моўных вэрсіях. Гэтаму сайту я аддаю перавагу перад усімі астатнімі. Ён падаецца найбольш дынамічным і аб'ектыўным. Шмат палемікі й аналітыкі. Аналізуюцца цяг выбарчае кампаніі, тэхналёгіі *public relations*, пэрсаналіі. Перавага інфармацыі й аналітыкі над ацэнкамі. Фон пярэсты, але не безгустоўны. Інтэрактыўны дызайн, простая сувязь з чытачом. Стваральнікі сайту адказна падышлі да стварэньня тэксту, вёрсткі. Цёплыя, прыемныя для вачэй шрыфты, дастатковыя інтэрвалы, зручнае разьмяшчэньне тэксту й ілюстрацыяў. Прафэсійна!

Шмат спасылак і рэклямы. Навіны абнаўляюцца шмат разоў на дзень. Актуальны маніторынг прэсы. Біяграфіі й здымкі кандыдатаў, каротка, на 3—4 абзацы, рэзюмэ. Сацыялёгія, аналітыка, маніторынгі ад аўтарытэтных адмыслоўцаў.

## Сайты тых, хто сышоў з дыстанцыі

## WWW.CHIGIR.ORG

Сайт Чыгіра пададзены ў зьмяшанай (беларуска-расейскай) і ангельскай вэрсіі. Фон колеру жаўнерскага сукна альбо гарохавага супу. Чыгір стаіць на тле натоўпу, які мусіць сымбалізаваць жыхарства Беларусі. Тэкст звароту напісаны з памылкаю, але ніхто пра гэта адміністратару не паведаміў. У той жа час, знайшоўшы на сайце Домаша напісаньне "АБ ДОМАШЫ", Валерка Булгакаў папрасіў выправіць, і цяпер красуецца напісаньне "ПРА ДОМАША". З гэтага я раблю сьмелую выснову — расейскую мову ў нас цэняць не як нешта сакральнае, а як сродак камунікацыі, "обшчепонятный піджын". Слоган сайту Чыгіра — "надзейнасьць, дастатак, сям'я". Зьмешчаныя перадвыбарная праграма, артыкулы й выступы. Сайт відавочна не абнаўляўся з 27 ліпеня. Форум — з 23-га. Ёсьць багаты альбом. Мы бачым спачатку пухнаценькага пяцігадовага хлапчука з мамай, а потым выдатніка страявой і фізычнай падрыхтоўкі — худзенькага юнага жаўнерыка.

## WWW.KOZLOVSKY.BY.RU

Официальный сайт Козловского П.П. Гэткая савецкая звычка — пісаць спачатку прозьвішча, а потым імя, укрываючы яго ў ініцыялах. А так хацелася б бачыць не Казлоўскага П.П. (*из личного состава*), а **Паўла Казлоўскага** як адзінага й непаўторнага. Аб шрыфты можна застраміць вока. Суцэльная расейская мова. Задзейнічаныя колеры: ярка-сіні (загалоўкі), жоўты (падсьцілка), салатавы (пасік збоку).

Разьдзелы: біяграфія, палітпартрэт, фотагалерэя, прэс-дасье, заканадаўства, гасьцёвая, навіны. Падобна, што сайт не абнаўляўся з 5 чэрвеня. У мяне было ўражаньне (з-за беднага дызайну й агульнай закінутасьці), што Павал Казлоўскі ня надта верыў, што Інтэрнэт дапаможа на выбарах.

## VIT.ORG.BY/PAZNIAK.HTM

Гэта не афіцыйны сайт палітыка, а хутчэй віртуальны збор твораў. Ініцыятыва яго стварэньня належыць Раману Салаўяну і трымаецца дзякуючы ягонаму імпэту. Гаспадар сайту, Віт, кажа, што не заўжды падтрымлівае тактычныя крокі сп.Пазьняка, але згодны са стратэгіяй беларусізацыі Беларусі:

"У апошні час адчуваецца блякада распаўсюду думак чалавека, аб якім напрыканцы XX стагодзьдзя чуў амаль кожны дарослы беларус. Таму лічу абавязкам прадставіць яму магчымасьць для выказваньня".

Зьмешчаныя артыкулы, публікацыі, выступы Пазьняка за 1988—2001 г. Фон белы, літары чырвоныя. Аздобаў і здымкаў няма.

## WWW.MARINICH.ORG

Сайт Марыніча ў бэзава-брунатнай гаме абнаўляецца й цяпер. Дзьвюхмоўны. Пададзеныя дасье, біяграфія, форум, кантакты, прэса, навіны, уключаючы найважнейшыя міжнародныя.

## WWW.SINITSYN.COM

Вэрсіі на трох мовах. Цёмна-шэры глыбокі тон зь зялёнымі надпісамі й спасылкамі. На галоўным здымку сп.Сініцын элеганцкі, у зялёным гарнітуры. А вось усьмешка — кшталту "кішміш" або "*cheeeese*".

Апошняе абнаўленьне 29 ліпеня. Шкода, што такі дызайн прападае. Сп. Сініцын — адзіны, хто не пабаяўся паставіць лічыльнік на сайце (апроч www.dereh.com). На ягоны беларускі сайт зайшло 410 наведнікаў, на расейскі — 1245 (тыповая для беларускага Інтэрнэту прапорцыя). На ангельскім я была першая.

## СХС

Летась амэрыканцы адкрылі, што ёсьць вірусная хвароба, якую пераносяць хатнія вусатыя прусакі, называецца СХС — сындром хранічнай стомы. Адзін прусачок здолеў усё нашае грамадзтва заразіць СХС, занесьці гэты вірус нават у Інтэрнэт. Палітыкі не выкарыстоўваюць сваіх магчымасьцяў напоўніцу. Пісалі, крычалі пра парушэньні з боку ЦВК. Пра тое, што яны назьбіралі-такі па 100 тыс. подпісаў, але іх не залічылі. А хто падаў на ЦВК у суд? Ніхто. Проста перасталі дзейнічаць і сталі чакаць, калі Ганчарык стане прэзыдэнтам, каб пры ім ачоліць парлямэнт, міліцыю ці міністэрства аховы здароўя. Скруцілі сваю дзейнасьць, нават іхныя сайты сьпяць у напаўзародкавым стане ў віртуальнай прасторы. Недазмагаліся, недасталялі. Цёплае беларускае балота ізноў прыняло ў сябе зачаткавыя формы жыцьця.

**Сьвятлана Курс**





# Фэстываль дакумэнтальнага кіно "Адзін сьвет"




**Расклад праглядаў фільмаў на Ўправе БНФ 21—30.08.2001**

| Назва фільму | Краіна і год вытворчасьці | Працягласьць, хвілін | Дзень прагляду | Пачатак прагляду |
|---|---|---|---|---|
| Расейская рулетка | Данія, 1999 | 45 | 21.08 аўт. | 17.00 |
| Беларусь у ценю Сталіна | Чэхія, 2001 | 28 | 21.08 аўт. | 17.45 |
| Багр | Чэхія, 2000 | 23 | 21.08 аўт. | 18.15 |
| Вайна Бабіцкага | Чэхія, 2000 | 65 | 22.08 сер. | 16.00 |
| Ніхто ня сьмее нічога пачуць | Чэхія, 1999 | 23 | 22.08 сер. | 17.00 |
| Косаўскія муры | Чэхія, 1998 | 60 | 23.08 чацьв. | 16.30 |
| Страта памяці | Чэхія, 2000 | 59 | 23.08 чацьв. | 17.30 |
| Плач з магілы | ЗША – Галяндыя, 1999 | 104 | 24.08 пятн. | 15.30 |
| Страх | Беларусь, 1998 | 43 | 27.08 панядз. | 16.00 |
| Дзікае паляваньне | Беларусь, 2001 | 35 | 27.08 панядз. | 16.40 |
| Хартыя' 77 | Чэхія, 1995 | 120 | 28.08 аўт. | 16.30 |
| З таго часу | Чэхія, 1999 | 102 | 29.08 сер. | 16.00 |
| Айцец, сын да стары Торум | Эстонія, 1997 | 90 | 30.08 чацьв. | 17.00 |

# Рубяжэвічы

Працяг са старонкі 1.

У 20—30-я памежжа сыцела на кантрабандным гандлі. Францускія панчохі і швайцарскія гадзіньнікі, польскі сьпірт і ангельская табака ішлі праз мяжу ў неверагодных колькасьцях. У карчомках безакцызную гарэлку налівалі за любыя грошы — даляры, маркі, рублі. Самымі шанаванымі кліентамі былі вайсковыя шпегі, якія зазвычай працавалі адразу на некалькі дзяржаваў.

Падчас грамадзянскай вайны ў Рубяжэвічах зьяўляліся атрады Булак-Балаховіча і атамана Дзергача. Тут быў вэрбовачны пункт войска Барыса Савінкава — прафэсійнага тэрарыста, былога вайсковага міністра Часовага ўраду. На Савінкава працавалі дзясяткі агентаў — гожыя кабеты з шляхецкіх сем’яў, якія ўдавалі прастытутак. Некаторыя зь іх па сумяшчальніцтве шпегавалі на карысьць польскай дэфэнзывы. І амаль усе былі агенткамі “Зялёнага дуба” — вайсковай арганізацыі атамана Дзергача, што змагаўся за незалежную Беларусь. У траўні 1921 г. Савінкоаў выращыў забіць Дзергача. Замах адбыўся ў Варшаве, проста на вуліцы. Агент Савінкава прастрэліў Дзергачу левую руку ды схаваўся ў натоўпе. Назаўтра ў Рубяжэвічах пачаліся ўзброеныя сутычкі паміж зеленадубцамі і савінкаўцамі.



Замірыў іх супольны вораг на ўсходзе. У ліпені 21-га ў Беларусі зьявіўся бальшавіцкі ваенкам Геранім Убарэвіч — кіраўнік Рэўваенсавету Менскага раёну. Ён прыехаў з Тамбоўскай губэрні, дзе добра навучыўся суцішаць непакорныя вёскі атрутнымі газамі і расстрэлам кожнага дзясятага... Хадзілі ўпартыя чуткі, што восеньню 21-га распачнецца ўсебеларускае паўстаньне...


Фрэска з выявай сьв.Антонія

Праз дзесяць гадоў у Рубяжэвічах не засталося нават успаміну пра тую вайну. Пры Польшчы аднавіліся вуліцы, аздобіліся дыхтоўнымі камяніцамі ды багатымі крамамі. У сьвяточныя дні па возеры плаваў прагулачны катэр, а на беразе граў духавы аркестар. У мястэчку было два касьцёлы, вялізная сынагога ды праваслаўная царква. Шматлікія сьвятары ды манахі вучылі дзяцей, апекаваліся старымі ды хворымі.

У 39-м, пасьля прыходу бальшавікоў, значная частка тутэйшае шляхты апынулася ў Сібіры. Потым прыйшлі немцы і дарэшты вынішчылі габрэяў, што складалі амаль палову насельніцтва Рубяжэвічаў. Тутэйшыя людзі дагэтуль зьдзіўляюцца той неверагоднай пакоры, зь якой габрэйская грамада рухалася на месца забойства. Беларусы спрабавалі ратаваць сваіх сяброў ды суседзяў, аднак рабін забараніў ім, кажучы: “Нам няма паратунку на гэтай зямлі. Беражыце сябе! А нас Бог аддае ў ахвяру, і мы мусім загінуць усе разам”.

Пасьля вайны мясцовыя жыхары, напалоханыя бальшавіцкім тэрорам, зьяжджалі ў Польшчу. Яны сяліліся там на землях, адабраных у Нямеччыны, у спусьцелых дамох нямецкіх баўэраў. Пры касьцёле ў Рубяжэвічах стаіць помнік тутэйшым, што мусілі назаўжды пакінуць радзіму. Ля помніка заўсёды сьвежыя кветкі. Гэта памятка па колішнім мястэчку, якое налічвала найменш тры тысячы жыхароў. Цяпер у вёсцы жывуць 280 чалавек. Моладзь зьяжджае ў Менск. Старыя застаюцца ў сваіх хатах, сярод фатаздымкаў і зжаўцелых лістоў з Польшчы ды Амэрыкі. У жыцьці гэтых людзей мала што зьмяняецца. Хіба зьмяніўся выгляд галоўнае вясковае вуліцы: традыцыйныя кветнікі ды агароджы збрыдзіліся бруднай чарнатою калгасных газавых трубаў.

Прыродны газ не зрабіў рэвалюцыі ў побыце вяскоўцаў. Дамы па-ранейшаму ацяпляюцца дровамі, а “выгоды” туляцца на дворы. Рубяжэвічы ўпарта чапляюцца за сваю даўніну. Тут — у адрозьненьне ад многіх беларускіх гарадоў і мястэчак — захаваўся габрэйскі цьвінтар. Драўляны будынак пошты — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Пошта ў ім знаходзіцца з 1897 г. У Рубяжэвічах месьціцца й адна з найбуйнейшых у Эўропе фітаапцэкаў, дзе можна набыць практычна любыя зёлкі.

Адзіная рубяжэвіцкая сьвятыня, якая перажыла ўсе навалы найноўшае гісторыі — касьцёл Сьв. Яна. Ён быў збудаваны на пачатку стагодзьдзя, калі скасавалі забарону мураваць новыя каталіцкія сьвятыні ў Беларусі і Ўкраіне. Згодна зь першапачатковым плянам, касьцёл мусіў мець дзесяць вежаў. Аднак царскія чыноўнікі палічылі гэты праект занадта амбітным, і архітэктарам давялося абмежавацца дзьвюма — у сьціплых традыцыях нэаготыкі. Інтэр’ер упрыгожылі фрэскамі ды вітражамі. Найцікавейшая фрэска — выява сьв.Антонія, які прамаўляе да рыбаў на фоне тыповага беларускага ляндшафту. Побач са сьвятым айцом вальяжна ходзіць бусел.


Касьцёл Сьв.Яна

Будаўніцтва скончылася ў 1910 г. Праз два гады ў касьцёле ўсталявалі навюткі віленскі арган. Дзеля яго я й прыехала ў Рубяжэвічы. Запрасіў мяне Віктар Кісьцень — арганіст і кампазытар, кіраўнік музычнага таварыства “Ліра” пры касьцёле Сьв.Роха. Ён выправіўся ў Рубяжэвічы на просьбу тамтэйшага ксяндза, вялебнага Рышарда Юніка.

Айцец Юнік сам быў калісьці арганістам, але, скалечыўшы руку ў аўтамабільнай аварыі, мусіў шукаць іншыя шляхі служэньня Богу. Стаў сьвятаром і ўжо 20 гадоў служыць у родных Рубяжэвічах. За саветамі і ў “вольныя” 90-я ў рубяжэвіцкім касьцёле хрысьціліся дзясяткі людзей. У тым ліку — Адам Глёбус і Аляксандар Дабравольскі.

Сьвяты айцец быў моцна ўсьцешаны, што сп.Кісьцень упрыгожыў касьцёльнае сьвята сваім граньнем. Дый яшчэ прывёз з сабой сьпявачку Тамару Рэмез з опэрнага тэатру. Абодва працуюць для касьцёлу цалкам бескаштоўна. Абодва — праваслаўныя, але жывая чалавечая душа не прымае канфэсійных абмежаваньняў. Ранішняя сьвяточная імша з удзелам менскіх музыкаў неўпрыкмет ператварылася ў сапраўдны канцэрт. Вернікі зачаравана слухалі, а, калі музыка скончылася, ня ведалі, як рэагаваць: ці жагнацца і цішком выходзіць з касьцёлу, ці пляскаць у далоні. Нарэшце, адна кабета асьцярожна заапладзіравала, следам запляскалі ўсе.


Грае арганіст Віктар Кісьцень

Усе тутэйшыя арганісты — вучні а.Юніка. Адзін зь іх, Віталь Князевіч, жыве ў Менску, скончыў Лінгвістычны ўнівэрсытэт, займаецца прадпрымальніцтвам ды грае ў касьцёле на Кальварыі. А ў вольныя дні заўжды прыяжджае ў Рубяжэвічы, каб паўдзельнічаць у набажэнстве.

Звычайна ж у касьцёле грае 17-гадовы Алесь Явід, які за тры гады асвоіў праграму музычнай семігодкі па спэцыяльнасьці “фартэпіяна”. Аднак працягваць музычную адукацыю малады арганіст не плянуе. Ягоная мара — паступіць ва ўнівэрсытэт на спэцыяльнасьць “сацыяльная пэдагогіка”. Вясковай Беларусі моцна патрэбныя спэцыялісты, здольныя лячыць сацыяльныя хваробы. “А хто ж будзе граць у касьцёле, пакуль ты будзеш вучыцца ў Менску?” — пытаюся я. Алесь толькі ўсьміхаецца ў адказ: “У гэтай вёсцы шмат арганістаў”.


Айцец Рышард Юнік з Тамарай Рэмез

Школа ды касьцёл у Рубяжэвічах беларускія. Большая частка літургіі адбываецца па-беларуску, дый казаньні а.Юніка гучаць на нашай мове. Для тутэйшых людзей хараство гэтае мовы гэткае ж натуральнае, як вера ў Бога. Як традыцыйная касьцёльная песьня. Як белыя аблокі, што плывуць панад вежамі. Можа, таму ў Рубяжэвічы хочацца вяртацца, як вяртаешся да старога сябра, — за парадай, падтрымкай і добрым сардэчным словам.

**Юлія Андрэева**

**У Рубяжэвічы зь Менску можна патрапіць простым аўтобусам “Менск—Рубяжэвічы”, што адыходзіць з аўтастанцыі “Паўднёва-Заходняя” ў 10.20 і 19.50 у будні і ў 15.25 па выходных. Машынай трэба ехаць зь Менску на Койданава, а там, праз Баравое, на Рубяжэвічы.**



## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Асьветнікі зямлі Беларускай**: Энцыкляпэдычны даведнік / Рэд. калегія: Г.Пашкоў ды інш.; Мастак У.Жук. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2001. — 496 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0205-9

*Станіслаў Дубянецкі, загадчык рэдакцыі філязофіі, эканомікі й права выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя», заўважыў недакладнасьці ў папярэдняй нататцы пра кнігу. У даведніку зьмешчаныя артыкулы пра жыцьцёвы й творчы шлях блізу 750 прадстаўнікоў філязофічнае й грамадзкае думкі Беларусі ад X да XX ст. Кніга створаная на матэрыялах энцыкляпэдычнага даведніка «Мысьліцелі й асьветнікі Беларусі» (Менск, 1995), але ў сёлетнім выданьні на 100 пэрсаналіяў больш. Затое ў новым даведніку няма ўрыўкаў з твораў мысьляроў, тлумачальнага слоўніка ды іменнага паказьніка — відаць, за гэты час мы крыху паразумнелі. Кніга каштуе 2,6 т. р. у кнігарні «Энцыкляпэдыя» (Акадэмічная, 15 а) і 3,4 т. р. у іншых крамах.*

С.Рудовіч. **Час выбару**: Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г. — Менск: Тэхналёгія, 2001. — 201 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-458-001-6

*Манаграфія прысьвечаная гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў часе першае сусьветнае вайны й распаду Расейскае імпэрыі. Кніга складаецца з разьдзелаў: «Падзеньне расейскага царызму й Беларусь», «Грамадзка-палітычная барацьба ў Беларусі па нацыянальным пытаньні ў лютым-кастрычніку 1917 г.», «Кастрычніцкае паўстаньне й пытаньне пра лёс Беларусі». Пры канцы ёсьць паказьнік іменаў. Каштуе крыху больш за 2,5 т. р.*

Н.Гиль. **У времени в плену**. — Москва: Можайск-терра, 2001. — 224 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 5-7542-0084-6

*Кніга напісаная братам народнага паэта Ніла Гілевіча — Міколам Гілём пра Генадзя Карпенку. У ёй распавядаецца пра жыцьцёвы шлях Карпенкі ад нарадзінаў да скону, падаецца неафіцыйная вэрсія сьмерці вядомага палітыка. У кнізе багата фатаздымкаў зь сямейнага альбому. Прыканцы зьмешчаныя колькі артыкулаў і найлепшыя фрагмэнты выступаў Карпенкі. Няясна, ці будзе кніга ў кнігарнях, шукайце праз арганізацыі «трэцяга сэктару».*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**



Андрэй Хадановіч

# Мастацтва выжываньня

Калі прачынаешся зранку,
упэўніся, што жывы:
крыху адшморгні фіранку.
(Не выхіляй галавы!)

Угледзеш тую ж макабру
і тую ж адчуеш млосьць —
вось довад, што ты, мой сябру,
дагэтуль на сьвеце ёсьць.

Шчэ дзень у нябыту выкраў —
змагайся ж, такі закон!
Каб потым было ня прыкра
за марна пазбыты скон.

Жыві, колькі стане сілаў.
(Жыцьцё — вялікі прыкол!)
Нічым ня крыўдзі дэбілаў,
што мірна жывуць вакол.

Цэфалам (макра і мікра)
ня тыцкай у нос буквар,
каб потым было ня прыкра
за марна разьбіты твар!

Разьбілі — ня трэба енку:
згадай хрысьціянскіх сьвятых,
падстаў другую пашчэнку —
і раптам шваргні пад дых!..

Красуні ў калготах зь лікры
рашуча скажы: "Сыходзь!",
каб потым было ня прыкра
лячыць сапсутую плоць!

Мы ў гэтым жыцьці — навабранцы,
гарматнага мяса шматок:
пойдзеш налева — пранцы,
наўпрост — электрычны ток,

направа — шчэрыць яхідна
іклы табе напаказ.
Каб потым было не агідна
ўдыхаць атручаны газ,

вучыся расейскага мату,
ня еж на людзях мацы,
трымай у піўніцы гармату
і гаўбіцу — на гаўбцы.

Знадворку чыняць такое,
што цяжка ўявіць, — няхай!
Схавайся ў сваім пакоі,
стаі дыханьне й чакай.

Бо прыйдзе міг адмысловы,
натхненьня павеў ляткі, —
складацьмем вольныя словы
ў нязмушаныя радкі.

Пяяцьмем вясны, каханьня
й паэзіі вечны хаўрус.
Давай, кастальскі пахане,
палохай цнатлівых Муз!

Шукацьмем свае сугуччы
у прыцемках нас саміх,
каб потым ня стала балюча
за марна страчаны міг.

## Навіна

### Пра канцлягер у Бярозе

**У Канадзе рыхтуецца дакумэнтальны фільм пра канцлягер у Бярозе-Картускай,** які існаваў у 1934—1939 г. Гэты дарагі праект (бюджэт фільму больш за 100 тыс. даляраў) ажыцьцяўляе рэжысэр з Манрэалю Юры Лугавы. Нядаўна ён здымаў тэрыторыю турмы, лягерныя будынкі, вядомыя тут як Чырвоныя казармы, што дастаялі да нашых дзён. Лягер быў створаны 17 чэрвеня 1934 г. у адказ на забойства ўкраінскімі нацыяналістамі міністра ўнутраных справаў Пэрацкага. Вязьнямі лягеру былі беларускія і ўкраінскія нацыяналісты, камуністы і сацыял-дэмакраты, а таксама крымінальнікі.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

## Дзе варта быць

### Рэванш!

**У чацьвер 23 жніўня бабруйская "Белшына" й барысаўскі БАТЭ правядуць хатнія гульні кваліфікацыйнага раўнду Кубку УЭФА.** БАТЭ — з "Дынама" Тбілісі. "Белшына" прыме славацкі "Ружомбэрок". Гульня будзе ў Менску, бо рэканструкцыя бабруйскага стадыёну не завершаная. Першыя гульні беларусы прайгралі — БАТЭ зь лікам 1:2, а "Белшына" — 1:3.

### Вандроўка на роварах

**22–26 жніўня па Маладэчаншчыне пройдзе вэлятур "Выбірай".** Вандроўнікі спыняцца ва ўсіх вёсках у сябе на дарозе, агітуючы ісьці на выбары. Будуць канцэрты (22-га ў Маладэчне — Шалкевіч і Бартосік). Маршрут такі: 22-га з Маладэчна ў Валожын, 23-га Валожын — Радашкавічы (а 18-й у Доме Культуры там будзе бардаўскі канцэрт, там могуць далучацца, хто ня можа ехаць з 22-га), 24-га Радашкавічы—Вялейка, 25-га Вялейка-Мядзел, 26-га Мядзел — Маладэчна. Усе, хто хоча ўзяць удзел у падарожжы, могуць зьвяртацца на т.: (273) 6-94-67 (Алесь) або e-mail: mtbm@chi.org.by. З сабою трэба мець намёты, спальнікі, ну, і мо сала шматок.

### Тур NRM

**22 жніўня канцэрт NRM адбудзецца ў Кобрыні, 25-га — у Лепелі, 26-га — у Івенцы.** Пра месца й час канцэртаў — праз т.: (017) 282-36-50.

### Акварэлькі Лучыны

**У Музэі беларускай літаратуры (у Траецкім прадмесьці) праходзіць выстава** "Беларускія акварэлькі Янкі Лучыны". Тэл. музэю 234-56-21. Выстава працягнецца да 15 верасьня.

### Зьезд байкераў



**24—26 жніўня менскі матаклюб "Жалезныя браты" ладзіць байкерскі фэстываль** у прафілякторыі "Спадарожнік" у Ждановічах. У яго праграме — матакрос і конкурсы, рок-канцэрт.

**Дзяніс Носаў**

Вячаслаў Дубінка

# Флямандзкі пан

**Флямандзец Мішэль з бэльгійскага гораду Бруге каторы год шчырye на прадпрымальніцкай дзялянцы ў Беларусі — займаецца дрэваапрацоўкай. Ён ажаніўся зь беларускай дзяўчынай, гадуе дачку. Бацька Мішэля — галоўны вэтэрынарны лекар Бэльгіі. Пасада адказная, грашовая, але да мазольнае працы сваіх сыноў ён прывучаў з маленства, а іх у багатага бацькі дзесяць.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Паўль Кох — кіраўнік нямецкай чарнобыльскай ініцыятывы ў зямлі Ніжняя Саксонія, арганізатар сэмінару «Знаёмства нямецкіх фэрмэраў зь сельскай гаспадаркай Беларусі». Беларускаму фэрмэру Аляксандру Сьвірыдаву з Пухавіцкага раёну ён прывёз у падарунак дубок.**

## СТАНОК

"Кругом сьмецьце, сьмецьце. Плююць пад ногі. У вас няма парадку ў дварах, на палях, гародах. Зямля ў вас лепшая, чым у Нямеччыне, а вы пабіраецеся. Бульба ў вас што гарох. Каровы брудныя, як сьвіньні. Яны таксама ваду любяць, чаму кароў ня мыеце? І працаваць ня ўмееце, тэхніку не беражэце. Я з Галяндыі дарагі станок прывёз, вялікіх грошай каштуе, яго больш за паненку любіць трэба..." Мішэль са скрухай апавядае, як дарагі дрэваапрацоўчы станок за дзясяткі тысячаў даляраў сапсаваў боўдзіла зь Ямпалю. Заліўшы вочы, упёр у станок з праграмным кіраваньнем бервяно зь цьвікамі. Мішэль гэтага работніка за каршэнь ды за вароты фабрыкі: "Табе Лукашэнка трыццаць плоціць, а я ў пяць разоў болей. Ідзі да Лукашэнкі".

Увогуле, выпівохі для Мішэля — праблема. Не палічыць, колькі такіх "работнікаў" вывеў ён за вароты сваёй фабрыкі.

І заробак Мішэль плоціць толькі ў пятніцу, калі праца скончаная: "Пі ў пятніцу ўвечары, у суботу пахмяляйся, а па выходных жонку любі...".

## МІКРААЎТОБУС

Прыгнаў Мішэль новы мікрааўтобус зь Нямеччыны, каб вазіць работны люд са сталіцы на сваю фабрыку. Не аўто, а цацка. І прыгожы, і весела бяжыць, як дагледжаны конік. А назаўтра кіроўца — да Мішэля і жаліцца:

— Душа плача, не магу супакоіцца. Заплявалі салон, абшыўку новую парэзалі, нагнюсілі недапалкаў...

— Я ўсё зразумеў, — кажа Мішэль. — Увечары я зраблю ім добры наганяй.

Скончылася праца, час і дахаты. Паселі работнікі ў вясёлае аўто, ад'ехалі па шашы пару кілямэтраў. Мішэль спыняе машыну і загадвае выходзіць:

— Ідзіце сваімі ножкамі, а я сам паеду. І калі яшчэ ў салёне насьвінячыце, кожны дзень гэтак хадзіць будзеце.

Больш ня сьмецілі, не плявалі, не тапталі нагамі недапалкаў.

## КУХАР

Наняў Мішэль маладую кабету гатаваць рабочым абед. Прыдзірліва сачыў, як тая абірала бульбу, мыла посуд, кешкалася на кухні. Нарэшце, не сьцярпеў:

— Бульбы ня ўмееш абіраць! І варыць ня ўмееш. Глядзі, як гэта робіцца ў нас, у Бэльгіі.

І паказаў. Рабіў усё надзіва хутка і прыгожа. Ахайна расставіў посуд, не забыўся пра сурвэткі каля кожнага прыбору. Накарміў усіх работнікаў, не абмінуў і новай кухаркі-няўмекі, спытаўшы пасьля абеду:

— Смачна?

— Ага! — шчыра прызналася няўдаліца.

— Цяпер ідзі, няхай цябе Лукашэнка вучыць і працу дае!

## ШЫЛЬДАЧКІ

На кожных дзьвярах Мішэлевай фабрыкі — шыльдачка-настаўленьне: "Сюды ходзіць толькі брыгадзір", "З цыгарэтамі, семкамі не ўваходзіць", "Чаравікі памый у прыбіральні". На дырэктарскай чытаю: "Пастукай тры разы, а калі атрымаеш дазвол — заходзь". На тэрыторыі фабрыкі такіх шыльдачак — чортаў тузін. І прыбіральшчыцам стрэлачкі-пазнакі, і грузчыкам, і жаўнерам, якіх прысылае на падкормку да Мішэля начальства.

## ЖАЎНЕРЫ

Прыслалі заморaных жаўнераў на суботнік да Мішэля. Камандзіры скемілі: карміць няма чым, на махорку і тую няма, няхай капіталіст патрасе кішэні. І Мішэль не падкачаў. За працу — а жаўнеры цягалі мяхі пілавіньня — наварыў ваярам вядро бульбы, а да бульбы поўную місу мойвачкі. А на перакур байцам — "Мальбара". Адна цыгарэта на двух.

## ПРАВЕРКІ

Панадзіліся да Мішэля праявяральшчыкі — ратунку няма: то пажарнікі, то санстанцыя, то падатковая. І кожнаму няпрошанаму госьцю дай нешта ў тэчачку, падносі чарку са скваркай.

Мішэль знайшоў арыгінальнае выйсьце. Прывёз з Бэльгіі пару скрыняў з шампанскім. Упакоўка — шык, вочы сьлепіць, а ў пляшках — салодкая вадзіца, таньнейшая за шыпучы *cidre*. На табе, служывы чалавек, прагані смагу! Бяруць прэзэнт і радыя, асабліва мытнікі на берасьцейскай мяжы.

## ХАБАР

За месяц Мішэль адпраўляе ў Бэльгію, Францыю і Галяндыю 25—30 грузавых фураў зь піламатэрыяламі. За лесам едзе ў Архангельскую, Валагодзкую, Мурманскую вобласьці. І ўсюды на ягоным шляху чыноўнік-павучок. І кожнаму трэба даць "на лапу".

Мішэль — майстар даваць хабар. У яго і сотня тэчак спэцыяльных маецца. Чырвонага колеру — буйному чыноўніку, блакітная — дробненькаму. І даляраў намяняў усё больш па адным, па пяць, па чырвонцы... А каб кожную машыну адправіць, трэба дзясятак дзьвярэй адчыніць і кожнаму павучку пакланіцца, паперчыну падпісаць. Толькі папкі хабарныя і ратуюць...

## ГІТЛЕР І ГЁБЭЛЬС

Гасьцюючы ў знаёмца ў Малінаўцы, Мішэль заўважыў на кніжнай паліцы кнігі з фоткамі Гітлера й Гёбэльса на вокладках. Гадоў колькі таму менскі паліграфкамбінат накляпаў іх шматтысячным накладам. Мішэль нат не дакрануўся да гэтых кніжак, адно заўважыў: "Калі б я такую паганую кнігу дадому прынёс, бацька мяне адразу б прэч выгнаў".

## КАМАРОЎКА

На Камароўку Мішэль ходзіць з партатыўнымі вагамі — з тае пары, як нягалены нахабны каўказец упёр яму недаважаную торбачку з "цытрусамі". Мішэль, ня верачы, пайшоў да кантрольных вагаў і пераканаўся, што не стае аж 300 грамаў. Знайшоў Мішэль нахабніка і моўчкі кінуў яму набыты хвілінаў колькі таму тавар. Грузін пахмура вярнуў яму грошы.

На плошчы Якуба Коласа Мішэль з валізамі чакае таксоўку. Падкочваецца атлет і бадзёра пытаецца, куды трэба везьці багатага пана.

— Да вуліцы Дразда, за Палац спорту, — адказвае Мішэль.

— 25 даляраў, — нахабна, не міргнуўшы вокам, называе цану кіроўца, зразумеўшы па акцэнце, што Мішэль — іншаземец. Адкуль ведаць скуралупу з таксапарку, што перад ім флямандзец-працалюб, які на фабрыцы два гады курыны памёт па мяшэчках рассоўваў, а, каб зарабіць грошы на вучобу, начамі мыў посуд у рэстарацыі.

— Вось гэтымі рукамі я б цябе... — Мішэль патрос агромністымі напрацаванымі рукамі, — за 25 даляраў данёс...

# Беларускі Гістарычны Агляд

**Том 7 Сшытак 2 (13). Сьнежань 2000**



Днямі выйшаў з друку 13-ы нумар "Беларускага Гістарычнага Агляду". Кожны, каму цікавая гісторыя, знойдзе ў ім матэрыял па сваім гусьце. Мэдыявісты пачытаюць артыкул Васіля Вароніна пра полацкіх путных слугаў у ВКЛ, аматары БССРаўскай спадчыны — дасьледаваньне Сяргея Хоміча пра этапы фармаваньня тэрыторыі Рэспублікі, той, хто цікавіцца рэлігійнымі праблемамі — пра "Пашырэньне праваслаўя ў Беларусі ў XIX ст." Андрэя Пятчыца.

Маладыя гісторыкі з Вэстфальскага ўнівэрсытэту ў Мюнстэры Морыц Люк і Цім Рыхтар падаюць артыкул "Паляваньне дазваляецца": барацьба з партызанамі ў "генэральным камісарыяце Беларутэнія". На падставе нямецкіх дакумэнтаў яны распавядаюць пра жудасныя акцыі супраць партызанаў, якія ператвараліся ў вынішчэньне мірнага насельніцтва. Дасьледчыкі не абцяжараныя ідэалёгіяй і палітычнымі ўстаноўкамі, таму глядзяць на падзеі вайны аб'ектыўна, па-нямецку пэдантычна: *"Насельніцтва, якому пагражалі нападзеньні партызанаў... з аднаго боку, і калектыўныя расправы, што праводзіліся немцамі... з другога, апынуліся паміж савецкім "молатам і нацыянал-сацыялістычным кавадлам"*. Вільгельм Кубэ энэргічна пратэставаў супраць зьнішчэньня людзей. У тэксьце падаюцца ягоныя цытаты: *"Беларусы — надзвычай прыстойны, старанны народ...", "Мы ж маем справу ня з нэграмі!"*.

Лявон Юрэвіч знаёміць паспалітага чытача зь беларускай кнігавыдавецкай справай часоў апошняй вайны. За нямецкай акупацыяй, побач з мастацкай літаратурай, выходзілі й кнігі прыкладнога характару: граматыкі, падручнікі, лемантары, календары для сялянаў. Прыкладам, 6-е выданьне "Граматыкі" Тарашкевіча выйшла накладам у 100 тыс. асобнікаў, "Беларусь учора і сяньня" Найдзюка — 50 тыс. Значная частка гэтых кніжак ляжыць і цяпер на гарышчах у людзей.

Апрача гэтых матар'ялаў, у нумары "БГА" ёсьць багата іншага — напрыклад, тэксты Гуінза Прызна "Вусная гісторыя", Ігара Войніча "Сільвэстар Косаў — Язафат Кунцэвіч". У нумары рэцэнзуецца шмат гістарычнай літаратуры. Ёсьць інфармацыя пра дысэртацыі, абароненыя па гісторыі ў 2000 г. — каб болей не пісалі на такія тэмы.

**Алег Гардзіенка**

# Сабачыя гісторыі

Адзін сабака разьвітаўся з партыйным мінулым. Купіў лецішча і стаў вырошчваць агуркі. Побач жыў Граждан, які ў скрынках вырошчваў цьвікі. Адна скрынка была ў Шушкевіча.

Адзін сабака купіў гітару. Нясе дамоў, радуецца. І раптам Граждан на трактары спыніўся побач і пахваліўся: "А мне мама не дазваляе іграць на гітарах. У мяне кампазытарскія здольнасьці!"

Адзін сабака прыехаў у вёску выбіраць бульбу. Выйшаў раніцай на поле, а там ужо Граждан у барознах корпаецца. У канцы поля сьцяг на коліку матляецца, а пад сьцягам сядзяць Гражданы і нейкія паперы перабіраюць. Сабака ўсім сказаў "добрай раніцы". А Граждан пацікавіўся: "А вы мужчынскага полу ці жаночага?"

Адзін сабака пайшоў у лагчынку каля ракі касіць сена. Граждан залез на хату, сеў на комін і ў бінокль сочыць за сабакам: "Я хачу даведацца, адкуль у гэтай пузатай драбязы такая нечалавечая праізвадзецельнасьць труда. Няўжо гэта мой сын?.."

Адзін сабака ахоўваў базар. Граждан доўга хадзіў каля базару, прыглядаўся, прынюхваўся і на сьвята пагранічніка вырашыў пранікнуць на ахоўваную тэрыторыю. Палез і адразу трапіўся сабаку, але не разгубіўся: "Дзядзенька, адпусьціце. Я пастрадаў ад савецкай улады. Пастрадаў ад белых, пастрадаў ад чырвоных, пастрадаў ад палякаў, ад немцаў, ад Пазьняка з Шушкевічам, ад Лукашэнкі... Адпусьціце, а то я вас за яйцы ўкушу, а сам павешуся..."

**Віктар Шніп**




## А Граждана

**Што піша пра мяне Віця Шніп — няпраўда, брэша аблыжнік вусаты.**

А дзела было так:

Зайшоў я неяк у фільгармонію паслухаць чаго-колечы сьвежанькага з кампазытара Чымарозы. Купіў трубачку марозіва, сыходжу, аблізваючы, у нужнік, а там — гаўна-гаўна-а!.. "Мабыць, Віця апярэдзіў", — падумалася.

І пра сабаку — чыстая няпраўда.

А дзела ж было так:

Прапала ў магазынах мяса. А я тым часам іду сабе ўзьлесьсем Купалаўскага сквэру. Бачу: ляжыць карова здохлая. "Мабыць, воўк зарэзаў!" — падумалася. А ў Лявіце напісана ж: здыхляціны і зьвераядзіны ён не павінен есьці, каб не апаганіцца гэтым.

**З пашанай, Ваш Граждан**

## Водгукі

# Водгук на водгук

**З водгуку А.Батуры з Садкоў ("НН" №241) на парады па абароне сельскіх пабудоваў ад маланкі ("НН" №240) вынікае, што рабіць тую абарону так, як пададзена ў парадах, ня трэба.**

Аўтар парадаў спасылаецца на "Энцыклапэдыю сельскага гаспадара", але ж першакрыніцай ёсьць брашура *"Молниезащита" (В.Черкасов, Москва, 1983)*. Брашура была выдадзеная для старшыняў калгасаў і іхных памагатых (наклад 70000), дасканалая ў сваіх падрабязнасьцях, і не даваць ёй веры проста грэх.

У парадах ("НН" №240) чамусьці для дому з бляшаным дахам прапушчаны два патрабаваньні: 1) дратоў, што ідуць ад даху да зазямляльніка, трэба, каб было ня менш за два (па дыяганалі) і 2) гэтыя драты трэба ўсталёўваць далей ад сенцаў і сьцежак.

Брашура апісвае два тыпы маланкі паміж наэлектрызаванымі аб'ектамі (хмара–зямля): скіраваная долу — калі аб'ект на зямлі ніжэйшы за сто мэтраў, скіраваная ўгару — калі аб'ект вышэйшы за сто мэтраў. Такім чынам, паспалітаму земляробу ня трэба грувасьціць свае глузды каронными напружаньнямі і ціхім сплываньнем электрычнасьці.

Хто ж зацікавіўся атмасфэрнай электрычнасьцю і ўтварэньнем навальнічнай хмары, знойдзе цудоўнае апісаньне гэтага ў кнізе *"Фейнмановские лекции по физике. Выпуск 5. Электричество и магнетизм"*. Выдавецтва "Мир", 1966.

**N, Менск**

# Захоп сваёй сталіцы

**Пэўна, мала хто з чытачоў "НН" чытае яшчэ й газэту з рэтра-назвай "Советская Белоруссия". Бадай што, гэта правільна, бо газэта тая адмыслова разьлічаная на асобаў з пэўным складам мысьленьня ("наш айчынны сьпявак Філіп Кіркораў") ці ўвогуле для людзтва, якому стае часу на тое аб'ёмістае чытаньне. А я вось чытаў колькі нумароў, дык хацеў падзяліцца ўражаннямі.**

Ва ўстаўцы да нумару за 28 чэрвеня "Союз" у рубрыцы "Отметим сообща" чытаем: "3 ліпеня. У гэты дзень у 1944 годзе савецкія войскі вызвалілі Менск. А 341 год таму войскі Рэчы Паспалітай яго *захапілі* ("захватили"). Робім няскладанае арытмэтычнае дзеяньне. 2001–341=1660. Самы разгар вайны, разьвязанай Масковіяй, — вайны, якая каштавала нашаму народу больш за палову насельніцтва. Удалося адбіць Менск — горад, які спрадвеку належаў ВКЛ і, значыць, ягонаму саюзу з Каронай — Рэчы Паспалітай. Дык які тут "захоп"? Нават калі вялося пра здабыцьцё Бэрліна — гораду, які да гэтага належаў толькі немцам, дык на мэдалёх пісалася *"за взятие"*. Бо захоп ("захват") ёсьць словам, якое заўсёды дастасоўваецца да непрыяцеля. Значыць, нас, беларусаў, прымушаюць лічыць, што нашая ўласная дзяржава ня ёсьць нашай, што мы самі для сябе зьўляемся непрыяцелямі і што нашай дзяржаваю ёсьць... сярэднявечная Масковія! Шаноўны Павал Якубовіч пэўна не прапусьціў бы такога на бачынах, якія ён выдае на ўласную адказнасьць, а вось першы намесьнік шэф-рэдактара гэтай устаўкі А.Таранда (Менск) — калі ласка.

**Аляксандар Урбановіч, Гомель**

# Шаноўны Спадар Рэдактар,



неспадзявана для мяне мой 75-ці гадовы юбілей разышоўся шырокім рэхам, і я атрымаў вельмі шмат віншаваньняў і пажаданьняў з усіх куткоў сьвету, ня кажучы пра водгукі ў прэсе, у тым ліку ў "Нашай Ніве", і радыё.

Кажу "неспадзявана", бо ня ведаю, чым я заслужыў на такое прызнаньне. Я толькі стараўся, вельмі недасканала, выконваць тое, што ўважаў сваім абавязкам. А Госпад Ісус Хрыстос сказаў вельмі ясна сваім вучням: "Ці (гаспадар) дзякуе слузе за тое, што ён выканаў загаданае яму? Так і вы, калі споўніце ўсё, што вам загадана, кажыце: Мы, слугі непатрэбныя, зрабілі тое, што павінны былі зрабіць" (Лк 17:9-10).

Сказаўшы гэта, я дзякую Богу і цешуся, што ў мяне так шмат прыяцеляў, бо "муж прыязливый ко дружбе лепший и больший приятель будеть нежели брат" (Кніга Прыпавесьцяў 18:24. Пераклад Францішка Скарыны).

Ня ў змозе адказаць кожнаму паасобку, хачу падзякаваць за пасрэдніцтвам "Нашай Нівы" ўсім, хто прыслаў віншаваньні, і запэўніць іх у маёй удзячнасьці і малітвах.

**З павагаю,**
**а.Аляксандар Надсан**
**Лёндан, 18 жніўня 2001 г.**

*Дарагіх маіх сяброў Анатоля і Алену Шагуноў сардэчна віншую з нараджэньнем сыночка!!! Здароўя, шчасьця, Божай ласкі!*

*Аляксей Фралоў*



## Прыватныя абвесткі



### віташньні

**Шаноўны Андрусю Дзенісевіч!** Віншую цябе з тваімі народзінамі! Даруй, што ў час забылася павіншаваць. Зычу табе каханьня, сонейка, дабрыні й усяго самага лепшага. Рамонкавая сяброўка Алёнка!

**Admiral віншуе Валер'я Леванеўскага** з Днём нараджэньня. Жадаю яму посьпеху ва ўсім!!!

**Капуц-га Алеся** з Маладэчна віншую з эгаізмам ды сэксуальным інфантылізмам, што выявіліся 1—2 жніўня. В.

**Вольку й Валерку** віншую з афіцыйным "падваеньнем". Язэп

**Бяроза!** Сёлета 10 жніўня — амаль дзяржаўнае сьвята! Расьці, красуй!

**Андрусю Повараў!** Віншую цябе зь мінулымі народзінамі. Усяго табе самага добрага й лепшага. Ніколі не здавайся, усё будзе як трэба! Алёнка

**Мілы мой**, каханы, родны чалавечак Андрусь Шкапляроў! Віншую цябе з двума месяцамі "сумеснага" жыцьця, а таксама зь месяцам службы ў войску. Ведай, Сонейка, што войска мы пераажывем, як і ўсе непрыемнасьці, што сустракаліся й сустракаюцца на нашым жыцьцёвым шляху. Я цябе кахаю, а гэта значыць, што ўсё будзе добра. Твая рамонкавая я.

**Настасься Карповіч!** Дзякуй за ўсе клопаты пра Бабруйск. Мы вельмі ўдзячныя ўсе й жадаем посьпеху. Бабруйск. Маладафронтаўцы

**Зьмітру Панкавец**, віншуем цябе з Днём народзінаў. Здароўя, посьпехаў у справах. Матуля і Сьвета

**Зьмітру Панкавец**, з 16-годзьдзем. Жадаем спаўненьня ўсіх тваіх мар. Жыве Беларусь! Цётка Тома, Алег

**Дарагая Ангеліна Аляксандраўна**, матуля любая! Віншую. Хай каханьне напоўніць нашу кватэру! Шчыра, чыста люблю. Сяржук

**Віншуем Натальку Водзіч** з уваходжаньнем у студэнцкае брацтва. Верым у цябе, любім. Аматары піва

**Віншую ўсіх** паступленцаў на архітэктурны факультэт БДПА. Будуйце новую Беларусь. Брат аднаго

### вокны, дзьверы

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклопакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### ідэі

**Спадару Ўладзімер Аляксандраў!** Вас ня чуюць нават чытачы "НН", але ведайце: Вы – не адзін

**Мой мілы квадрацік!** Трымайся там, тэлефануй часамі й як мага меней палі, бо дзецям давядзецца дасьпяваць на падваконьні як зялёным памідорам. Усё будзе добра! Хутка сустрэнемся! Твой К.

**Алесю!** Замест таго, каб атаясамліваць фашызм і нацыяналізм, узгадай, дзе ты жывеш! Юрась

**Маладафронтаўцы** ды ўсе, каму зараз даводзіцца сутыкацца зь ня вельмі прыемнымі супрацоўнікамі КДБ! Не здавайцеся. Мы пераможам у любым выпадку, галоўнае, каб мы заставаліся сапраўднымі людзьмі й былі разам. Будзьма разам! Усё будзе добра! Маленькая Вар'ятка.

**Я ня буду галасаваць** за Лукашэнку, нават пад катаваньнямі.

**Я люблю Беларусь!** Мікалай

**На гэтых "выбарах"** у Беларусаў выбару няма. Патрыёты

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйджэр: (8-017)249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

### кантакты

**Аляксандар**, 28 год, прывабны, добры, прыстойны, з в/а, бяз ш/з, жанаты ня быў, судзімы ня быў, не багаты, любіць кнігі і прыроду. Пазнаёміцца для стварэньня сям'і з простай вернай дзяўчынай. 210021, Віцебск-21, а/с 21

### кнігі, музыка

**Фанаты беларускае музыкі** ў Бабруйску. Калі вам неабходна нешта дастаць (аўдыё, відэа, CD, значкі й інш.) — зьвяртайцеся, дапамагу абавязкова! Т.: 58-33-10 Алёна.

**Буду ўдзячны ўсім**, хто дашле дыскаграфіі ці set-лісты альбомаў беларускіх выканаўцаў. Юрась. 246010, Гомель, а/с 99

**Новая крама** зь беларускамоўным відэа – выстава ў к/з "Менск" (ст.м."Першамайская")

**Вельмі танна прадаю** цудоўныя кнігі і часопісы на розныя тэмы ў добрым стане з хатняй бібліятэкі. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. 210021, Віцебск-21, Цітова, 121-15

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

**Беларускую Біблію**, Эвангельле, духоўную літаратуру шукаю. Магчымы абмен. Т.: 226-42-63

**Zet здымае** маскі! (Porter)

### маркі

**Прадаю калекцыю марак** 1500 штук за 3000 руб. (маркі 20 краін сьвету). 210001, Віцебск-1, а/с 39

### пытаньні

**І сапраўды, калі** вы ўжо будзеце прашываць "НН"? Разам і накяад павялічце. Хоць удвая

**Дзе новыя касэты** Шалкевіча, Бартосіка, Мельнікава? Ці яны эміґравалі, ці пры Лукашэнку ўжо і не сьпяваецца? Рэгіна Лісоўская

**Ігару Няхведараву.** Ігарок, а ці не зьяўляецца Вольскі (Лявон) тваім Богам? ("НН" №25) Saddam

### спачуваньні

**Сябры Заводзкай Рады Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ** выказваюць спачуваньні кіраўніку Рады Станіславу Шацілу ў сувязі са сьмерцю бацькі

### шчанюкі

**Прадам шчанюкоў** каўкаскага аўчара. Век шчанюкоў – 1 месяц 2 тыдні. Бацькі – сапраўдныя каўкасцы. Дзеці без дакумэнтаў. Т.: (0225) 58-33-10. Алёна

НАША НІВА > КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон

## Паштовая скрынка



**Віталю С. зь Менску.** Запозна.

**Ігару Ж. з Бабруйску.** Расьцягнута і стэрыльна. Не адпавядае рытму і настрою эпохі.

**Аляксандру П. з Манчагорску.** Ведаеце гісторыю, добра валодаеце мовай, але ліст Ваш не для "Нашай Нівы". Напішыце нам лепш пра тое, як жывуць беларусы ў Мурманскім краі.

**Сяргею К. зь Менску.** "Голас Камбатанта" Вам дашлюць.

**Хельзе Я. зь Менску.** "Наша Ніва" ніколі не прасіла чытачоў пісаць "апакаліпсіс" Беларусі.

**Міколу з Пружаны.** З выбарамі жыцьцё не скончаецца. Беларусь будзе жыць.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьніца гал.рэдактара | Сьвятлана Курс |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| заснавальнік і выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом Друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 5116.
Нумар падпісаны ў друк 19.08.2001.
Замова № 4689.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а